НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 31 (772) 22 жніўня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Жыццё наркаманаў

Можа быць, гэтую праўду павінны бачыць і падлеткі, каб ніколі ў жыцці не кранацца наркотыкаў.

Старонкі 6—7.

## Таямніца перамог ізраільскай зброі

Дзве дзяўчыны з Гродна адслужылі ў ізраільскай арміі. Старонка 9.

**Лукашэнка перасядзеў Брэжнева**

6 601 дзень мінуў 15 жніўня. **Старонка 3.**



Тэндэнцыі

## Сурапін: Каця Скурат мяне не падстаўляла

18 жніўня **на волю выйшлі** журналіст Антон Сурапін і рыэлтар Сяргей Башарымаў.

Іх абвінавачвалі ў дапамозе незаконнаму перасячэнню мяжы шведскім самалётам 4 ліпеня. Хлопцы адседзелі ў «амерыканцы» больш за месяц. Башарымаў пакуль прыняў рашэнне не размаўляць з прэсай. А вось Антон Сурапін згадзіўся адказаць на пытанні. Выглядае, што ўся ягоная «дапамога» зводзілася да таго, што ён першы апублікаваў фоты мядзведзікаў на сваім сайце. Прынамсі, іншых сведчанняў «пасобніцтва» не агучана.

**«Наша Ніва»: Што Вы адчувалі, калі да Вас прыйшлі зператрусам?**

**Антон Сурапін:** Канечне, рукі дрыжалі. Але з першага ж дня, як запусціў праект (bnp.by — «НН»), ведаў, што такое можа адбыцца. Сябе вінаватым я не лічу. Таму спадзяваўся, што хутка разбяруцца, што ніякіх дачыненняў са шведамі ў мяне не было і адпусцяць. Адпусцілі толькі праз месяц пад падпіску аб нявыездзе.

**«НН»: Калі апынуліся ў «амерыканцы», што думалі?**

**АС:** Мне ўсяго 20, а я ўжо ў «амерыканцы», дажыўся. Было крыўдна, бо нічога кепскага не рабіў. Разам з тым, «амерыканка» — гэта мо найлепшае, элітнае СІЗА.

Працяг на старонцы 3.

# Мядовы падман

Мінздароўя: рэклама бальзаму «Медалія» і алею «Жывіца» — падман.

Міністэрствы аховы здароўя і гандлю прызналі неадпаведнай рэкламу бальзаму «Медалія» і алею «Жывіца». Абвесткі пра іх запаланілі бясплатныя газеты і ліфты. Афішкамі засыпалі і паштовыя скрыні. У іх распісваюць гаючыя ўласцівасці бальзамаў. Маўляў, і ціск зніжаюць, і мужчынскую патэнцыю аднаўляюць, і ныркі перастаюць балець. І ўсё са спасылкай на нібыта канкрэтных асобаў, дактароў і былых дактароў.

Як паведаміла Мінгандлю, суд Кастрычніцкага раёна Магілёва паўторна прыцягнуў ПГУП «Медэль Трэйд» — рэкламадаўцу «Медаліі» — да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне заканадаўства аб рэкламе. Праўда, гэта ўсяго толькі 20 базавых велічынь штрафу (2 мільёны рублёў).




Справу ініцыяваў Камітэт дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласці.

**Сяргей Гезгала**

## Лукашэнка аддаў Чыжу яго родную вёску

У Сабалях будзе этнаграфічна-вытворчы цэнтр «Родны кут».

Адпаведны ўказ Аляксандра Лукашэнкі №369 падпісаны 20 жніўня.

Інвестыцыйная дамова будзе падпісана з Чыжовымі ТАА «Трайпл», ТАА «Варыянт» і СТАА «Нафтахімтрэйдынг», а таксама арганізацыяй, якая ствараецца дадзенымі таварыствамі для рэалізацыі праекта.

Варта адзначыць, што толькі невялікую частку ворыва і лесу будзе дазволена выкарыстоўваць не па прызначэнні. Пераважна вёска будзе па-ранейшаму займацца сельгасвытворчасцю.

На 300 гектарах паўстануць гатэль, рэстаран, этнаграфічны музей і вялікая ферма. І лыжаролерная траса — як жа без яе беларусу.

**Мікола Бугай**

### Фотафакт



Гэтае фота нам даслаў чытач, які падпісаўся нікам Воўча Здань. На здымку — ён уздымае бел-чырвона-белы сцяг над К'ёрагболтанам (Kjeragbolten) у Нарвегіі. Гэта самы небяспечны камень у свеце. Ён размяшчаецца на вышыні каля 1000 м над прорвай паміж дзвюма скаламі. Небяспека ў тым, што ад парыву ветру можна зваліцца.

## Леанід Заяц прызначаны міністрам сельскай гаспадаркі

Ён з таго самага агракамбіната «Дзяржынскі», што і Шапіра.



Такое рашэнне Аляксандр Лукашэнка прыняў у аўторак пасля наведвання агракамбіната «Дзяржынскі», гендырэктарам якога быў Заяц. Да гэтага з 10 красавіка в.а. міністра сельскай гаспадаркі і харчавання быў Леанід Марыніч.

Цяперашні кіраўнік Гродзенскай вобласці Сямён Шапіра таксама перайшоў на пасаду міністра сельскай гаспадаркі з дырэктарства ў агракамбінаце «Дзяржынскі».

Леаніду Зайцу 53 гады, ён з вёскі Гацук Слуцкага раёна. Працаваў старшынёй калгаса «Беларусь» Слуцкага раёна, дырэктарам Слуцкага камбіната хлебапрадуктаў. У 2001 годзе быў прызначаны старшынёй Маладзечанскага райвыканкама, а потым — намеснікам старшыні Мінаблвыканкама.

У «Дзяржынскім» ён з 2008 года. Гэтае прадпрыемства спецыялізуецца на вытворчасці мяса птушкі. Зямлі мае аж 14500 гектараў: паглынула суседнія стратныя калгасы.

**Мікола Бугай**




**Такую міні-ўлётку сфатаграфаваў Руслан Равяка ў Баранавічах. У розных гарадах краіны сустракаюцца аналагічныя графіці. П'янства застаецца вялікай бядой Беларусі.**

## У дзень нараджэння Статкевіча ў турме крычалі «Жыве Беларусь!»

«Мікола ведае пра віншаванні, чуў салют».

«Мікола перадае словы ўдзячнасці ўсім, хто павіншаваў яго з днём нараджэння», — паведаміла на сваёй старонцы ў Фэйсбуку жонка палітыка Марына Адамовіч.

«Дарэчы, калі быў салют, зняволеныя крычалі «Жыве Беларусь!» Мне пра тое казалі сведкі. Вельмі рада. І шчыра ўдзячная!» — напісала жанчына.

Мы запыталіся ў Марыны, якія навіны ёсць ад Мікалая Статкевіча.

«Ён атрымаў шмат віншаванняў: тэлеграм, паштовак, лістоў. Чуў салют і крыкі іншых зняволеных: «Віншуем!», «Ура!».

### Сціcла

**Малыя правялі ноч на могілках**

3-гадовы хлопчык і 2-гадовая дзяўчынка з вёскі Еськавічы Мінскага раёна зніклі ў панядзелак. Пайшлі на двор а 9-й вечара і прапалі. Ад 10-й іх пачалі шукаць. Знайшлі толькі ўранку на могілках за 2 км ад хаты. Цяпер разбіраюцца, як гэта здарылася.

**У Вайсковай акадэміі выяўлены наркаманы**

Упраўленне вайсковай контрразведкі КДБ выявіла наркаманаў на факультэце супрацьпаветранай абароны Вайсковай акадэміі. Курсанты курылі марыхуану,. На думку аператыўнікаў, наркотыкі ў акадэміі распаўсюджваў курсант 2 курса. Кадэбісты выявілі трох курцоў з ліку курсантаў акадэміі і падазраюць, што насамрэч курылі даволі многія. Супраць курсанта акадэміі заведзеная крымінальная справа.

**Масавая бойка на дыскатэцы**

Металісты супраць гопнікаў — сутычка здарылася 18 жніўня ў Оршы падчас так званай «Металатэкі» ў Гарадскім цэнтры культуры. Бойка скончылася, як толькі падышла міліцыя.

**Снайперскія вінтоўкі на дарозе не валяюцца?**

17 жніўня 65-гадовая пенсіянерка з Лінова (Пружанскі раён) знайшла каля дарогі вінтоўку з аптычным прыцэлам. Прычым з адным патронам.

**СГ**

### Высокая культура

## Śvieciacca vokny dy nikoha za jimi



Уладзімір Арлоў выдаў новую кнігу паэзіі лацінкай.

З марай пра адраджэнне беларускай лацінкі Уладзімір Арлоў новую кнігу паэзіі выдаў адразу ў дзвюх версіях. Побач з вершам на кірыліцы друкуецца варыянт, набраны лацінскімі літарамі.

У зборніку «Свеціцца вокны ды нікога за імі» — выбраныя творы з папярэдніх кніг, а раздзел «На поўнач ад кахання» склалі вершы, што друкуюцца ўпершыню.

### Самае чытанае на nn.by за 15—21 жніўня

1 Жыццё наркаманаў — асцярожна, шакуючыя кадры
2 «Бландзінка з характарам» прамяняла Захад на Валожыншчыну — і не шкадуе
3 Ва Украіне абвясцілі ў вышук аўтара сатырычнага білборда з бабуляй і катом
4 «В спять» — лукашэнкаўцы апелююць да Пазняка і аднакласнікаў
5 Femen спілавалі крыж у знак салідарнасці з Pussy Riot
6 Сурапін шукае дзяўчыну, якая даслала яму здымкі мядзведзікаў, хоча ажаніцца
7 Праваслаўныя правакатары? Інцыдэнт у адной з кавярняў — відэа
8 За што селі Pussy Riot?
9 Толькі нікому не расказвайце: райдар Lady Gaga шакаваў арганізатараў у Вільні
10 Аляксандр Куль: «Я ім ужо сказаў: буду размаўляць з вамі па-беларуску»

# Сурапін: Каця Скурат мяне не падстаўляла

Працяг са старонкі 1.

**«НН»: А што за людзі з Вамі сядзелі?**

**АС:** Магу сказаць, што быў адзін наркаман. Астатніх людзей назваць не магу. Яны і самі прасілі, і я пісаў распіску. У мяне быў такі аркушык, на якім па пунктах было запісана, што нельга казаць у інтэрв'ю, дык пра ўмовы ўтрымання там таксама было запісана.

**«НН»: Не было адчування, што Вы закладнік?**

**АС:** Я не ведаў, што адбываецца на волі. Да мяне не даходзіла незалежная прэса. У камеры ішоў тэлеканал АНТ, дык я толькі зразумеў, што справа гучная. Трошку-трошку інфармацыі даходзіла ад адваката.

**«НН»: Пра рыэлтара Башарымава чулі?**

**АС:** Увогуле не ведаў. Па вызваленні таксама яшчэ не камунікавалі, хоць было б прыемна паразмаўляць. Усё ж прайшлі па адной справе. Я думаю, што ён таксама невінаваты. На нашых месцах мог быць хто заўгодна. Нам было б пра што паразмаўляць.

**«НН»: Антон, чаго найбольш не хапала ў турме?**

**АС:** Інтэрнэту. Навін не хапала, прыстасаванняў, каб працаваць, зносін.

**«НН»: А як жа дзяўчат? Вы так прыгожа на тэлеканале «Белсат» прызналіся ў каханні да Каці Скурат, дзяўчыны з Івянца, што дасылала здымкі мядзведзікаў.**

**АС:** Я не магу яе адшукаць. Пісаў з турмы ў лістах да матулі, каб перадалі Каці, што я яе кахаю. Калі выйшаў з турмы, то даведаўся, што яе старонка «Укантакце» выдаленая, тэлефоны не адказваюць. Але трэба чакаць, мо штосьці і будзе.

**«НН»: Чым Вас Каця так зачапіла?**

**АС:** Прыгожая, разум... Не, спачатку разумная, а потым прыгожая. Дзяўчына не такая, як усе. Такіх можаш сустрэць раз на два гады. І то не будзеш ведаць, што гэта яна самая-самая. Каханне з першага погляду. Нават немагчыма канкрэтна сказаць, чым зачапіла. Але Каця — дзяўчына маёй мары.

**«НН»: Не было адчування, што яна Вас крыху падставіла гэтымі здымкамі?**

**АС:** Не. Гэта таямніца следства, але гэта не яна мяне падставіла. Яна не ведала, што гэта была за акцыя. Я сам прасіў здымкі гэтых мядзведзікаў. Я ні на каго не крыўдую: ні на Кацю, ні на шведаў.

**«НН»: Наведвальнасць Вашага сайта вырасла пасля арышту?**

**АС:** Так, прычым вельмі істотна. Сябры прыкалваліся: «Колькі бярэ КДБ за раскрутку сайтаў?» Колькі-колькі? Месяц.





Мама цалуе Антона ў першыя гадзіны на волі.

**«НН»: Ці спрабавалі Вас вербаваць у турме?**

**АС:** Калі не для запісу, то не спрабавалі. Проста не ведаю, ці не парушаю тут таямніцу следства.

**«НН»: Але ж дзеяння не было. Значыць, і таямніцы быць не можа.**

**АС:** Не спрабавалі. Дарэчы, я быў гэтаму вельмі здзіўлены. Ранейшае, што чуў пра «амерыканку», было звязанае з вярбоўкай. Атрымаўся такі разрыў шаблонаў.

**«НН»: Шведы па вызваленні не выходзілі на сувязь?**

**АС:** Не. Толькі шведскія журналісты тэлефанавалі.

**«НН»: Слухайце, а Вы ў Швецыі бывалі?**

**АС:** Не бываў. На Захадзе ніколі не быў.

Гутарыў Зміцер Панкавец

## Ці стане Макей зноў голубам?

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта прызначаны **міністрам замежных справаў**.

У прынцыпе, гэтых падзеяў чакалі даўно. Кіраўнік МЗС Сяргей Мартынаў знаходзіўся на гэтай пасадзе амаль дзесяць гадоў. Для беларускіх чыноўнікаў — гэта ўнушальны тэрмін. Казалі, што Мартынаў некалькі разоў ужо прасіўся ў адстаўку, доўга трымаў для сябе месца пасла ў Брусэлі, але Лукашэнка ўсё адтэрміноўваў. Нарэшце ў Брусэль паехаў намеснік Мартынава Еўдачэнка, а сам Мартынаў па адстаўцы атрымаў ордэн Айчыны трэцяй ступені. Для параўнання: Мартынаў-снайпер таксама атрымаў Айчыну трэцяй ступені за алімпійскую перамогу.

У лютым Мартынаву будзе ўжо 60 гадоў, ён дасягне пенсійнага веку. Наўрад ці ён, настолькі дасведчаны дыпламат, адразу пойдзе адпачываць. Найхутчэй, яму знойдуць менш пыльную за міністэрскую пасаду. Напрыклад, паслом Беларусі пры ААН.

Што датычыць Уладзіміра Макея, то на новай пасадзе ён будзе паляпшаць адносіны з Захадам. Раней ён зарэкамендаваў сябе ўмелым візажыстам-касметолагам. Касметычныя змены падаваліся ў якасці вялікіх зрухаў.

Тым не менш, журналісты і эксперты нярэдка называлі Макея «голубам», што прыйшоў на месца «ястраба» Шэймана. Сапраўды, нейкія зрухі ў адносінах з ЕС адбываліся. Скончылася «лібералізацыя» Плошчай і «амерыканкай» для дзясяткаў палітычных працўнікаў.

Выглядае на тое, што цяпер Макея прадстаўляць голубам «дубль два», каб перазагрузіць адносіны з Еўропай. «Прызначэнне Макея можа надаць пазітыўны імпульс дачыненням Мінска і Брусэля», — кажа лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

Пікантнасці гэтаму прызначэнню дадае факт, што Макей унесены ў спіс неўязных на тэрыторыю ЕС. Зрэшты, раней ЕС не ўносіў міністра замежных справаў у «чорны спіс», каб мець магчымасць весці з ім перамовы наўпрост. Выглядае, што персона Макея будзе перагледжана і ўжо ў кастрычніку ён зноў зможа наведваць ЕС.

ЗП





Злева направа: Міхаіл Мясніковіч, Уладзімір Макей, Сяргей Мартынаў, Леанід Мальцаў.

Каментар

## Лукашэнка і Брэжнеў: паралелі і разыходжанні

Піша **Сяргей Навумчык**.

На 15 жніўня 2012 года Аляксандр Лукашэнка, які заступіў на пасаду прэзідэнта 20 ліпеня 1994 года, знаходзіцца ва ўладзе роўна столькі, колькі кіраваў СССР Леанід Брэжнеў. Гэта — 6 601 дзень.

Я не тое каб веру ў нейкую магію лічбаў, але такі «брэжнеўскі» рубеж — нагода параўнаць і часы, і дасягненні пры Брэжневу і пры Лукашэнку.

«Лукашэнка пазбавіў маё пакаленне перспектываў», — напісаў адзін малады чалавек. Магчыма, будзе нялішне параўнаць такую ацэнку з тым, як успрымала маё пакаленне Брэжнева.

Брэжнеў — афіцыйна — быў абраны першым сакратаром на пленуме ЦК, у поўнай адпаведнасці са статутам КПСС. Насамрэч ён прыйшоў да ўлады ў выніку класічнага «палацавага перавароту». Тыя, хто паставіў на Брэжнева, лічылі яго часовай фігурай. Большасць з гэтых людзей неўзабаве былі адсунутыя Брэжневым на другасныя ролі ці адпраўленыя ў адстаўку — але ніхто не быў забіты ці пасаджаны ў турму.

Нашае пакаленне на 1982 год усё свядомае жыццё пражыло пры Брэжневу — але мы добра разумелі, што з ягонай смерцю нічога прынцыпова новага не здарыцца — ні горшага, ні лепшага (Андропаў усё ж быў горшым, бо чэкісты адчулі сябе гаспадарамі жыцця).

Сённяшняе маладое пакаленне — ва ўсялякім разе, значная ягоная частка — звязвае свае спадзяванні з сыходам Лукашэнкі. Між іншым, хаця ў апошнія гады свайго жыцця Брэжнеў быў персанажам анекдотаў з прычыны сваёй відавочнай недзеяздольнасці і прагі да ўзнагародаў, не памятаю, каб нехта зычыў яму смерці...

Магуць сказаць, што па ўзнагародах і тытулах Лукашэнка да Брэжнева не дацягвае. Але вайсковае званне Леаніда Ільіча было дакладна акрэслена — Маршал Савецкага Саюза. Што азначаюць вышытыя золатам пагоны на кіцелі Лукашэнкі — думаю, не ведае і ён сам.

Ну і калі ўжо працягваць тэму «асабістай сціпласці»: Брэжнеў зрабіў сваіх сына і зяця першымі намеснікамі міністраў і абодвух увёў кандыдатамі ў члены ЦК КПСС. Пасады значныя — але, па тагачасным наменклатурным раскладзе, афіцыйна яны не ўваходзілі ў першую «сотню». (Я пішу «зрабіў», але насамрэч тое была ініцыятыва падхалімскага атачэння — Леанід Ільіч проста не супраціўляўся.) Лукашэнка сам, сваім указам, прызначыў старэйшага сына членам Рады Бяспекі — своеасаблівага аналага брэжнеўскага Палітбюро, гэта значыць — членам першай «дзясяткі».

Наша пакаленне пры Брэжневу слаба ўяўляла, як жыве цывілізаваны свет. Сёння значная частка моладзі добра ведае замежныя мовы. Але шмат хто вучыць замежную мову дзеля таго, каб з'ехаць.

Атрымаўшы ў 1964-м СССР як звышдзяржаву, Брэжнеў у 1982-ім і пакінуў яе звышдзяржавай — з магутным ядзерным патэнцыялам, бязліччу ракет і танкаў. Але ў гэтай магутнай дзяржаве заставалася невырашанай праблема вырабу жаночых панчохаў, а каўбаса лічылася раскошай. І падвёў Леанід Ільіч СССР да той мяжы, куды толькі і можна было дайсці «ленінскім шляхам».

Атрымаўшы ў 1994-м краіну з выключным інтэлектуальным патэнцыялам, Лукашэнка эканамічную залежнасць ад Масквы не толькі не зменшыў, а шматкроць павялічыў.

Пры Брэжневу Савецкі Саюз уганараваўся назвам «імперыя зла». Лукашэнка заслужыў персаніфікаваны тытул — «апошні дыктатар Еўропы».

Пры Брэжневу на гарадскіх вуліцах беларуская мова практычна не гучала. Цяпер яна гучыць у тысячах вуснаў маладога пакалення — насуперак высілкам Лукашэнкі. Пакаленне, якое, у адрозненне ад нас, тагачасных дваццацігадовых, выходзіць і на Плошчу. І ў гэтым, калі адкінуць усе айфоны ды іншыя прыкметы прагрэсу, бачыцца мне галоўная розніца паміж часам брэжнеўскім і днём сённяшнім.

І гэта дае падставы прагназаваць, што наступнага, «сталінскага» рэкорду (29 гадоў пры ўладзе) цяперашні кіраўнік НАК не дасягне.

Са скаротамі, паводле радыё «Свабода»



PHOTO BYMEDIA.NET

# Жывы курылка! Пракаповіч вяртаецца

Сяргея Ткачова адставілі з пасады **памочніка кіраўніка краіны** па эканоміцы.

Былы кіраўнік Нацбанка, які сышоў з пасады «па стане здароўя» пасля таго, як у 2011 абрынуўся рубель, атрымаў новую пасаду. Былы памочнік Лукашэнкі Ткачоў меў рэпутацыю саветчыка і прыхільніка адміністрацыйных метадаў.

Ён праславіўся сваім артыкулам, у якім патлумачыў развал СССР згубным уплывам элементаў рынкавай эканомікі, уведзеных рэформай Касыгіна. Пятро Пракаповіч, наадварот, хай і з агаворкамі, лічыцца прыхільнікам рынкавых метадаў.

Праўда, рэпутацыя Пракаповіча-эканаміста была, мякка кажучы, падпсавана леташнім фінансавым крызісам. Рубель дэвальваваўся ў 2,8 разу цягам некалькіх месяцаў.

Агулам, у час ягонага банкірства інфляцыя ў Беларусі заставалася самай высокай на кантыненце, а рубель абясцэньваўся найхутчэй сярод валют.

І тым не менш Пракаповіч атрымаў прызначэнне на самую высокую пасаду. Гэта лішні доказ таму, што не ён быў творцам фінансавай бурбалкі, якая лопнула летась. У беларускім персаналісцкім рэжыме дарадца прэзідэнта часам мае большы ўплыў, чым прэм'ер ці кіраўнік Нацбанка.

Пракаповіч родам з Заходняй Беларусі, мае карані ў Пружанскім і Брэсцкім раёнах. Сваю кар'еру ён зрабіў у будаўніцтве. З Лукашэнкам зблізіўся ў часе дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце XII склікання.

У часе фінансавага крызісу 2011 года з'явіўся нават сайт імя Пятра Пракаповіча, дзякуючы якому людзі мянялі валюту. У той жа самы час Пракаповічу зрабілі найскладанейшую аперацыю на сэрцы. Яму замянілі сардэчны клапан. Пасля гэтага ён праходзіў доўгі перыяд рэабілітацыі.

«Курс стабільны і будзе заставацца стабільным у межах устаноўленага калідора плюс-мінус 8% да кошыка валют», — заявіў Пракаповіч перад самым абвалам і абяцаў давесці золатавалютныя запасы да 10—12 мільярдаў даляраў да 2012 года.

**Мікола Бугай**

# Беларусы атрымліваюць найбольш шэнгенскіх візаў у свеце

Якая перспектыва для **бясплатных візаў у Еўрасаюз**.

Часта можна пачуць, што зніжэнне кошту шэнгенскай візы ці нават увядзенне бясплатных візаў пазітыўна адаб'ецца на эканоміцы і самаадчуванні беларусаў. Таму візавае пытанне называецца адным з самых актуальных і прыярытэтных.

Каб трапіць у Еўропу, беларус павінен заплаціць амаль удвая больш за расійцаў ці ўкраінцаў. Калі ж на час забыцца на даволі адчувальныя для сярэднега беларускага заробку 60 еўра, то можна пабачыць, што ў краіны Шэнгена беларусу выехаць не складаней за грамадзяніна любой іншай краіны «Усходняга партнёрства» ці Расіі. Згодна з дадзенымі Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS), летась на 1 000 жыхароў краіны прыпадала 61 віза тыпу А (транзітная) ці С (кароткатэрміновая). На другім месцы стаіць Расія з усяго 36 візамі на 1 000 чалавек.

«У выніку ўстойлівага павелічэння колькасці выдаваных візаў консульствамі краін ЕС з 2008 летась быў практычна дасягнуты ўзровень 2007 (да таго, як Літва, Латвія, Польшча далучыліся да Шэнгенскай прасторы)», — піша аналітык BISS Андрэй Елісееў. Больш за тое, «з пераходам Сербіі і Македоніі ў шэраг краін, грамадзянам якіх не патрабуецца віза для кароткатэрміновых візітаў у краіны Шэнгена, Беларусь з 2010 выйшла на першае месца ў свеце па колькасці атрыманых шэнгенскіх віз у разліку на душу насельніцтва».

Трэба прызнаць, што наўрад ці ў хуткім часе кошт візы зменіцца: перамоваў наконт спрашчэння візавага рэжыму і рэадмісіі, што магло б знізіць кошт шэнгенскай візы да 35 еўра, Брусэль чакае ажно ад 1 чэрвеня 2011. Афіцыйны Мінск зусім не спяшаецца з адказам заходняму суседу. Надзеі на тое, што Еўропа можа пайсці на якія-небудзь саступкі ў аднабаковым парадку, амаль не існуе. У той жа час паслядоўная палітыка ЕС у дачыненні Беларусі змагла пераадолець і бюракратычныя перашкоды.

Як паведамілі «НН» ў Еўракамісіі, амаль чвэрць заяваў на атрыманне «шэнгена» былі апрацаваныя бясплатна. Гэта пры тым, што кожная другая шэнгенская віза на Беларусі — шматразовая.

Удасканальванне візавай палітыкі можа стаць адным з пунктаў, якія ЕС можа прапанаваць Беларусі ў межах «Дыялогу аб мадэрнізацыі» ці «Усходняга партнёрства». «У ЕС ёсць мноства магчымасцяў, і пакуль што ёсць грошы, але прамоўшн наладжаны дрэнна», — кажа Вольга Шуміла-Тапёла з Цэнтра Карнэгі ў Брусэлі.

**Кірыл Хілько**

**Каментар**

# За што селі Pussy Riot?

Расійскі суд даў даў дзяўчатам з панк-гурту па **два гады агульнага рэжыму**.

Дробным хуліганкам з «панк-групы Pussy Riot», якія станцавалі пасярод Храма Хрыста Збаўцы ў Маскве, расійскі суд даў два гады турмы. Учынак, які ў заходнім свеце патрымаўся б на першых палосах пару дзён, у Расіі зрабіўся ледзь не падзеяй года.

Першае, эстэтычнае. Вельмі дзіўна чытаць людзей без пачуцця гумару, якія разважаюць пра акцыю Pussy Riot як пра мастацкі перформанс. Пра панк-гурт з такой назваю да вядомага інцыдэнту ў Храме Хрыста Збаўцы ў Расіі ніхто не чуў.

Многія паспелі на той момант пачуць пра «Арт-групу «Вайна» (членам якой ці то была, ці то ёсць адна з падсудных актывістак Надзея Талаконнікава), але і тут, і там размова ідзе не пра музыку і не пра мастацтва, але проста пра недасяжна таленавітыя і яскравыя палітычныя акцыі.

Славуты вазок з гноем, падвезены Алесем Пушкіным да рэзідэнцыі Лукашэнкі, — гэта таксама выбітная палітычная акцыя, але ж таксама ніяк не мастацтва.

Другое. Не варта ідэалізаваць асуджаных. Гэта не проста «маці малалетніх дзяцей» і не «маладыя дурныя дзеўкі», але дасведчаныя і пазбаўленыя многіх тармазоў палітактывісты, якія ведалі, на што ішлі. Яны наўрад ці маглі ведаць, што скандал набудзе статус галоўнага працэсу года і што прысуд будзе нагэтульки неадэкватным, але дакладна ведалі, што проста так ім гэтага не даруюць і што давядзецца альбо хавацца, альбо сядзець.

Трэцяе, кароткае. Непаўторны вобраз сучаснай пуцінскай Расіі — гэта калі людзі, у чыіх кабінетах вісіць партрэт бандыта Дзяржынскага і хто дагэтуль не пахаваў мумію Уладзіміра Леніна, саджаюць у турму левацадыкальных актывістак за святатацтва.

Чацвёртае, самае падазронае. Гэта, між іншым, не першы такі «канцэрт» з удзелам людзей, блізкіх да гэтай групоўкі. У 2009 «Арт-група «Вайна», у тым ліку



Талаконнікава, зладзілі «канцэрт» у памяшканні суда, дзе ішоў працэс над арганізатарам атэістычнай выставы. У 2010 у тым жа судзе яны раскідалі тры тысячы мадагаскарскіх тараканаў. Ніхто тады затрыманы не быў.

Найноўшы скандал з Pussy Riot і танцамі ў Храме разгарэўся ў той самы момант, калі пачаў разгортвацца скандал вакол прыватнай кватэры патрыярха Кірыла.

Царкоўныя нормы наўпрост не дазваляюць патрыярху валодаць маёмасцю, асабліва кватэрамі ў элітных маскоўскіх дамах. Гэтыя нормы пагатоў забараняюць яму жаніцца. Быў таксама і скандал з гадзіннікам патрыярха цаною ў некалькі дзясяткаў тысяч даляраў. Нормы нормамі, але ж хто пра гэта цяпер памятае?

Не будзем умешвацца ў справы Расійскай праваслаўнай царквы — хаця можна сабе ўявіць, што ў некаторых іншых цэрквах за гэтымі рэчамі адстаўка іерарха адбылася б вокамгненна. Але тут за імі з'явілася справа Pussy Riot.

**Алесь Чайчыц, Масква**

# Што будуецца на праспекце Дзяржынскага?




Сярод замежных кампаній прадстаўленыя **толькі расійскія**.

Сталічны праспект Дзяржынскага, які плаўна пераходзіць у трасу Мінск—Брэст, доўгі час заставаўся забудаваны малапавярховым прыватным сектарам. На думку гарадскіх уладаў, дарагая зямля прастойвала, таму яе прапанавалі інвестарам, выселіўшы ранейшых жыхароў. Некаторыя гаспадары збіраюцца змагацца за сваё жыллё да апошняга, але праспект ужо не пазнаць — паўсюль вядзецца будаўніцтва высачэзных жылых дамоў, офісных і забаўляльных цэнтраў. Хоць цалкам дарога адкрыецца толькі праз некалькі гадоў, калі на выездзе з горада будзе адкрытая станцыя метро «Малінаўка».

### 1. Тры станцыі метро

Галоўны рухавік усяго будаўніцтва на праспекце — метро. «Пятроўшчына», «Міхалова» і «Грушаўка» звяжуць цэнтр Мінска са спальнымі раёнамі Паўднёвы Захад, Малінаўка і Брылевічы. Дарэчы, гэта аўтаматычна павялічыць кошт тамтэйшай нерухомасці.

Будаўнікі абяцалі паспець адкрыць метро ў пачатку верасня, аднак цяпер на гэты месяц плануецца толькі выпрабавальны запуск. А пасажыраў станцыі прымуць, імаверна, у лістападзе.

### 2. Бізнэс-цэнтр «Лект»

Адно з самых канфліктных будаўніцтваў сталіцы вядзецца проста за будынкам адміністрацыі Маскоўскага раёна. Бізнэсмэн Андрэй Балабін, які валодае крамамі бытавой тэхнікі «Пяты элемент», будуе тут 16-павярховы офісны будынак. Такое суседства прыйшлося недаспадобы мясцовым жыхарам.




Яны сабралі больш за паўтысячы подпісаў супраць будаўніцтва, у выніку інвестар быў вымушаны адмовіцца ад будаўніцтва паркінга на 600 машынаў. Вось толькі экалогіі гэта дапаможа слаба — праз некалькі гадоў каля бізнэс-цэнтра пачнецца будаўніцтва першага транспартнага кола.

### 3. Гатэль «Марыёт»

Пляцоўка, раней выдзеленая пад офісны цэнтр, у выніку дасталася гатэлю расійскай кампаніі «Маспрамбуд». Яе асноўным акцыянерам з'яўляецца алігарх Міхаіл Гуцэрыеў, капітал якога перавышае $6 мільярдаў. Абслугоўваць чатырохзоркавую гасцініцу будзе найбуйнейшы гатэльны аператар свету «Марыёт». 11-павярховы будынак разлічаны на 264 нумары. Мяркуецца, што будаўнічыя працы скончацца да Чэмпіянату свету па хакеі 2014 года. Кошт праекта ацэньваецца ў $50 мільёнаў.




### 4. «Калізей» экс-дэпутата Ваганава

Супольнаму беларуска-брытанскаму прадпрыемству «Лада-Гарант» на чале з экс-дэпутатам Аляксеем Ваганавым даручылі забудоўваць квартал «Новая Грушаўка», які адным з бакоў выходзіць на праспект Дзяржынскага. Раней тут быў прыватны сектар.

Прадстаўнічы жылы дом «Калізей» амаль на паўтысячы кватэраў вокнамі якраз выходзіць на нядаўна адкрытую трохузроўневую развязку, таму пра цішыню і свежае паветра жыхарам можна забыцца. Дом мае быць здадзены да канца года, але апошнім часам працы на ім спыніліся.




### 5. Жылы комплекс «Маскоўскі»

«Маскоўскі» быў адным з першых прыкладаў выдзялення інвестарам цэлага квартала пасярод Мінска. «Маскоўская інвестыцыйная будаўнічая кампанія», інтарэсы ў якой мелі былы мэр Масквы Юрый Лужкоў і ягоная жонка мільярдэрка Алена Батурына, была заснаваная яшчэ шэсць гадоў таму. У планах было будаўніцтва сямі жылых дамоў. Аднак імпэт ва ўзвядзенні 25-павярховых слупкоў згас, як толькі высокая маскоўская сям'я трапіла ў Расіі ў няміласць. На дадзены момант дабудаваныя толькі два дамы, на падыходзе і трэці.




ФОТА REALT.BY




### 6. Студэнцкая вёска

Гучны сацыяльны праект пачаў рэалізоўвацца чатыры гады таму. Тады ён каштаваў каля $300 мільёнаў! З васьмі запланаваных студэнцкіх інтэрнатаў пакуль што адкрытыя толькі тры, яшчэ два мяркуецца здаць да пачатку верасня. Дарэчы, мінскія ўлады здолелі пралабіраваць рашэнне, згодна з якім фінансаванне будаўніцтва вялося не толькі з гарадскога бюджэту, але і за кошт усіх абласцей краіны.

**Што яшчэ?**

**8.** Офісны цэнтр з аўтасалонам Opel.

**9.** Жылы дом на месцы баракаў пабудуе кампанія «Стар РМ», нібыта на грошы загадкавага англійскага інвестара.

**10.** Трэцяя чарга гандлёвага цэнтра «Глоба».

**11.** Лядовая пляцоўка Юрыя Чыжа каля студэнцкай вёскі.

**12.** Мікраараён «Брылевічы-2» забудоўвае беларуская кампанія «Арэса-Сэрвіс» на чале з Сяргеем Карэнькам.

### 7. Забаўляльны цэнтр «Тытан» з ЗАГСам

У комплекс «Тытан» ужо ўваходзяць гандлёвы цэтр, начны клуб, боўлінг, рэстаран, дзіцячы лабірынт, 5D-кінатэатр і пляцоўка для лазерных баёў. Аднак бізнэсмэн Віталь Сініцкі, уладальнік кампаніі «Сігмаполюс», збіраецца пашырыць яго, дадаўшы офісныя вежы. Апроч таго, на тэрыторыю «Тытана» пераедзе ЗАГС Маскоўскага раёна, вызваліўшы для райвыканкама нятанныя памяшканні каля плошчы Незалежнасці.

**Ягор Марціновіч**




ФОТА PROF-PRESS.BY

## Беларускі бізнэсмэн купіў кампанію ў Аўстраліі за $45 мільёнаў

**Віктар Кіслы** заплаціў такія грошы за вытворцу гульнявых рухавічкоў Big World.

Віктар Кіслы — суўладальнік і выканаўчы дырэктар беларускай кампаніі-распрацоўніцы масавых шматкарыстальніцкіх анлайн-гульняў Wargaming.net.

Паводле некаторых ацэнак, гэта адна з найбуйнейшых M&A-здзелак з удзелам прыватных беларускіх кампаній.



**Віктар Кіслы на танку.**

Са словаў Віктара Кіслага, здзелка важная для кантролю над пастаўшчыком тэхналогій, а гэта ў сваю чаргу дазволіць зрабіць развіццё кампаніі больш эфектыўным і дае перспектыву росту капіталізацыі бізнэсу да $200 мільёнаў.

На кампанію Wargaming.net працуе каля тысячы супрацоўнікаў у Мінску, Кіеве і Санкт-Пецярбургу.

Гэта адзін з самых паспяховых гульнявых анлайн-праектаў. «Ударная» гульня кампаніі World of Tanks («Свет танкаў») мае каля 20 мільёнаў пастаянных карыстальнікаў, ацэначна прыносячы бізнэсу Кіслага каля $8–10 мільёнаў выручкі ў месяц. Да запуску рыхтуюцца яшчэ дзве анлайн-гульні — «Свет баявых самалётаў» і «Свет вайсковых караблёў».

Віктар Кіслы — не адзіны беларускі бізнэсовец, які інвестуе ў IT-сферу.

Летась у гэтую галіну прыйшоў Віталь Арбузаў. Ён заснаваў у Сіліконавай даліне (Каліфорнія, ЗША) кампанію Fenox Venture Capital з капіталам $20 мільёнаў.

Шукае перспектыўныя праекты ў гэтай галіне і кіраўнік «Зубр Капіталу» Алег Хусаенаў.

«Альтэрнатыўная лічбавая сетка», якой кіруе першы беларускі фонд прамых інвестыцый, у канцы мінулага і пачатку бягучага года набыла двух інтэрнэт-правайдараў — гомельскую кампанію «Тэлесетка» і мінскага аператара «Сола». Гэта адбылося дзякуючы прыцягнутым рэсурсам Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця.

Нагадаем таксама, што ў лютым 2012 года адбылася гістарычная падзея для ўсяго беларускага бізнэсу.

Кампанія EPAM Systems, якая займаецца распрацоўкай камп'ютарнага праграмавання, размясціла IPO на Нью-Ёркскай біржы і прадала 15% акцый, атрымаўшы $72 мільёны. Гэтыя сродкі часткова прызначаныя для набыцця новых актываў.

**Сяргей Гезгала; інф. Ej.by**

## Сцісла

### Хлеб, мяса, малако…

У жніўні ў Беларусі на 10% павялічыліся гранічныя максімальныя адпускныя цэны на традыцыйныя віды хлеба і батонаў, а таксама на мяса куранят-бройлераў. А вось «сацыяльныя» малако, кефір, смятана, тварог даражэюць яшчэ больш істотна — у жніўні на 35%, а ў верасні яшчэ на 4%. Праўда, іх і так даўно нідзе не было ў продажы.

### Лукашэнка аддаў Чыжу яго родную вёску

Указам кіраўніка дзяржавы кампаніі Юрыя Чыжа атрымалі 333 гектары вёскі Сабалі, дзе нарадзіўся сам бізнэсмэн. На гэтай плошчы будзе створаны турыстычна-этнаграфічны комплекс «Наш родны кут Сабалі», які будзе ўключаць у сябе гатэль, рэстаран, музей, лыжаролерную трасу, а таксама ферму.

### Стаўка рэфінансавання — 30,5%

Нацбанк працягвае змяншаць памер стаўкі рэфінансавання. Працэнты па рублёвых дэпазітах змяншаюцца, як і стаўкі крэдытаў.

### Праезд падаражэў у 2,2 разу

У студзені — ліпені 2012 года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года кошт міжгародняга праезду чыгункай вырас у 2,2 разу, падлічыў Белстат.

**ЯМ**

Можа быць, гэтую праўду павінны бачыць і падлеткі, каб ніколі ў жыцці **не кранацца наркотыкаў**.

# Жыццё

Ніжэй на фотаздымках жыццё наркаманкі Таццяны (29 гадоў), яна ВІЧ-інфікаваная.

Калісьці Таццяна працавала на хлебазаводзе. Пасля страціла працу і занялася прастытуцыяй, дзе і пакаштавала першы раз наркотыкі. У Таццяны вельмі хутка развілася залежнасць.

З гадамі даходы Тані пачалі падаць і яна перайшла на танны наркотык дэзамарфін (на слэнгу яго называюць кракадзіл, бо ў месцы ўколаў скура робіцца бугрыстай, як у кракадзіла). Смяротнасць ад яго вельмі высокая. Цягам аднаго-двух гадоў памірае 80% наркаманаў, якія прымаюць дэзамарфін. Рэшта, 20%, паміраюць крыху пазней, праз 3–4 гады.

Дэзамарфін выклікае трамбоз венаў, некрозы тканак, спрыяе распаўсюджванню інфекцыі па ўсім целе. Нярэдкія выпадкі, калі ў галаўным мозгу наркамана ўтвараецца гнойны абсцэс. Дастаткова пяці ўколаў, каб ногі пачалі літаральна загніваць. Вены наркамана хутка прыходзяць у непрыдатнасць, і ён вымушаны калоцца ў іншыя месцы, разносячы інфекцыі і множачы некрозы. Гангрэнозныя канечнасці прыходзіцца ампутаваць, каб хоць неяк падоўжыць жыццё. Пра выздараўленне не можа быць і гаворкі.

Вось і ў Таццяны развіўся глыбокі некроз тканак левай галёнкі. Сяброўкі наркаманкі дапамагаюць ёй прыбіраць некратызаваныя тканкі, але хіба гэта дапаможа?

Таня жыве са сваім 11-гадовым сынам і яшчэ шасцю наркаманкамі-прастытуткамі ў двухпакаёўцы.

**Паўднёваафрыканскі фатограф Брэнт Стыртан зрабіў жорсткі цыкл фатаграфій пра жыццё наркаманаў ва Украіне. Гэты праект прынёс яму першую прэмію конкурсу World Press Photo 2012 года.**
**Украіна мае найбольшы ў Еўропе працэнт заражаных СНІДам. Фатаграфіі Стыртана бязлітасныя. Але можа быць менавіта такую праўду павінны бачыць і падлеткі, і дзеці — каб ніколі ў жыцці не кранацца таго, што жыццё нявечыць, — наркотыкаў.**







На наступных фотаздымках жыццё двух наркаманаў і іх маці.

Маці ўтрымлівае больш за 12 гадоў двух сваіх дзяцей-наркаманаў, заражаных ВІЧ. Жанчына была вымушаная кінуць працу, каб глядзець дзяцей, — гэта яе крыж. Дзеці гандлююць наркотыкамі, каб выжыць і мець дозу для сябе. Дзеці-наркаманы часта папракаюць маці, што гэта менавіта яна вінаватая ў тым, што яны наркаманы. Жанчына прызналася журналісту, што хоча памерці.





# наркаманаў

Ніжэй — жыццё наркаманкі Таццяны (45 гадоў).

У яе на глебе ломкі развіўся псіхоз, яна ўвесь час узбуджаная і кідаецца па пакоі. Таня кажа, што ўнутры яе знаходзіцца маторчык, які не дае ёй спакойна сядзець. Яна вымушаная пастаянна абапірацца на сцены, бо ёй цяжка трымаць раўнавагу.





Былы афганец. Менавіта ў Афгане ён падсеў на наркату.





На фота зверху — былы наркаман Валадзян. Унізе — ён распаўсюджвае інфармацыю пра шкоду наркотыкаў, а таксама бясплатна раздае прэзерватывы прастытуткам. Адна дарожная прастытутка ў сярэднім абслугоўвае 5 чалавек за ноч і спрыяе распаўсюджванню захворванняў, якія перадаюцца полавым шляхам. Такія прастытуткі часта пераязджаюць з дальнабойшчыкамі ў іншыя гарады, разносячы хваробы.



На фотаздымках унізе — дзеці-сіроты, дзеці наркаманаў.





**Што Вы думаеце аб праблеме наркаманіі? Ці ёсць яна ў Вашым горадзе? Раёне? Пішыце нам на nn@nn.by або 220050 Мінск, а.с.537.**

# Эміраты, Шры-Ланка, Іспанія: дзе адпачылі беларускія хакеісты?

Сяргей Касціцын, беларускі нападаючы «Нэшвіла», сёлета адпачываў у курортным мястэчку бліз Барселоны. Хакеіста суправаджала шыкоўная бландзінка — дзяўчына Алена. Дарэчы, гэта сястра беларускага металіста Алеся Таболіча, лідара гурту Znich.

Цікава, што зорка НХЛ наведаў Іспанію ўпершыню. «Больш за ўсё спадабалася Барселона. А так — адпачынак як адпачынак, ляжыш на пляжы, і ўсё», — кажа Сяргей.

Варатар «Нёмана» Ігар Брыкун з жонкай Веранікай на тыдзень з'ездзіў у Шры-Ланку. Дачушку Бажэну (якой усяго 11 месяцаў), натуральна, у падарожжа не ўзялі. Яе глядзела цешча хакеіста.

«Спадабалася дзікая прырода, акіян. Прывезлі адтуль чай і магніцікі», — кажа Ігар.

Рэшту адпачынку хакеіст правёў у Наваполацку, у бацькоў на дачы. Гуляў у футбол і... сумаваў па хакеі.

«У Наваполацку шмат збіраецца хакеістаў, пару разоў на тыдзень гуляем у міні-футбол. Але праз два тыдні адпачынку хочацца патрэніравацца, выйсці на лёд», — кажа спартовец.

Па-ранейшаму папулярным месцам адпачынку беларускіх спартсменаў застаюцца Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Сёлета там адпачылі хакеісты «Гомеля» Аляксандр Жыдкіх і Міхаіл Стэфановіч. «Уразіла вежа Бурдж-Халіфа, самы вялікі будынак у свеце», — кажа Аляксандр.

А былы галкіпер мінскага «Дынама» Андрэй Мезін, хоць і застаўся без працы — з ім клуб нядаўна парваў адносіны, — а пабываў у некалькіх краінах. Тыдзень у Эміратах. Затым — Францыя, дзе наведаў гульню «Формулы-1». У Кіеве падчас «Еўра» хадзіў на футбол. Пасля яшчэ два тыдні з жонкай Анжалікай і дачкой Палінай (ёй тры гады) адпачывалі ў Турцыі.

**Аксана Рудовіч**



Ігар Брыкун адпачываў на Цэйлоне.




Сяргей Касціцын з дзяўчынай у Іспаніі.



Мезіны пабывалі і ў Эміратах, і ў Францыі.

## Знарок не прыдумаеш




Хоць шыльда, замацаваная на слупе каля галоўнага офіса КДБ, адпраўляе на адрас па Нямізе, але, як кажуць, знарок не прыдумаеш.

## Рабочыя «Шкловалакна» дабіліся даплаты за працу ў гарачыню

Дапамог Свабодны прафсаюз.

Рабочыя цэхаў № 6, 7 і 12 запатрабавалі даплаты за шкодныя ўмовы працы ў ліпені. У шэрагу цэхаў тэмпература значна перавышала дапушчальныя нормы. У якасці пацвярджэння старшыня заводскай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Віктар Стукаў сфатаграфаваў тэрмометр, што паказваў больш за 40 градусаў.

Закон аб ахове працы дае права рабочым адмовіцца ад даручанай працы «ў выпадку ўзнікнення непасрэднай небяспекі для жыцця і здароўя». Але рабочыя працу працягвалі. Таму прафсаюзнік прапанаваў кіраўніцтву «Шкловалакна» зрабіць даплату за працу ў гарачыні. І сапраўды, рабочыя атрымалі за ліпень надбаўкі ў памеры каля 22%.

Сярэдні заробак па прадпрыемстве складае каля 4 мільёнаў рублёў.

**Сямён Печанко**




## «Способо за сына»

Шчаслівы бацька пакінуў ля раддома ў Гродне надпіс на 43 метры. Ён напісаў: «Алёна, способо за сына». Менавіта так, праз два «о». Цяпер яго шукае міліцыя. Не за памылку, вядома, а за псаванне грамадскай маёмасці.

Цікава, што ніводнае акно раддома не выходзіць на той бок. Магчыма, шчаслівец збіраецца паказаць гэтыя надпісы маці свайго дзіцяці пасля выпіскі.

**Сяргей Гезгала**



Камертон Сяргея Ваганава

## Пра «ўсё»

На мае папярэднія нататкі пад назвай «Малітва аб Літве» на сайце nn.by былі крытычныя водгукі. Агульны сэнс: далёка не ўсё ўдалося літоўцам, як тое сцвярджае аўтар.

Можна было б моўчкі прыняць гэта да ведама, пашкадаваць аб нібыта неасцярожным выразе — «усё». Каб не водгук, які вылучаўся непадробным болем адносна праўды аб сучаснай Літве. Назваўшы гісторыю Рэмігіуса, хлопчыка з Ніды, а цяпер vip-менеджара буйной міжнароднай кампаніі «не показательным случаем», наведніца сайта «НН» пад нікам «бывшая клайпедчанка» піша: «...А Вы в литовскую глубинку проедьте... Бегут люди кто куда, лучшую долю ищут, либо спиваются так же... Грустно...»

Гэта праўда — «бягуць». Афіцыйная статыстыка — паўмільёна.

Хто куды? Не зусім праўда. У большасці — у краіны Еўрасаюза, дзе гарантуюцца роўныя з іх грамадзянамі працоўныя, сацыяльныя правы і не губляюцца правы грамадзян Літвы. Зразумела, для невялічкай Літвы гэткая эміграцыя — даволі пякучая праблема. Але здаецца, урэшце яна вырашыцца.

Вось Алдона, дзяўчо з так званай «глыбінкі». Падчас навучання ў Вільні на эканаміста яна тры гады запар лётала на канікулы ў Англію збіраць клубніцы... Сёння ўзначальвае ў Лондане аўдытарскую фірму, і разам з мужам, таксама літоўцам, рыхтуюцца да вяртання ў Літву, калі з'явяцца дзеці, бо ім «...не падабаецца англійская сістэма дзіцячага выхавання...»

Дарэчы, пра дзяцей. У Літве часцяком можна ўбачыць такую карціну: бацька ці маці вязе на ровары аж траіх дзетак — наперадзе ва ўтульным крэселцы — самы маленькі, ззаду ў прычэпленым спецыяльным вазочку — яшчэ двое... Да крызісу Літва заахвочвала нараджаць тым, што жанчынам у дэкрэце тры гады захоўвала поўны заробак. Гедымінас, мой сябра, калега і літоўскі пенсіянер, на дзесяць гадоў маладзейшы за мяне, за апошнія тыя ж дзесяць гадоў займеў ад дзвюх дачок пяць унукаў...

Співаюцца? «Былая клайпедчанка» згадвае Ніду 1995—2007 гадоў, калі сама яна жыла паблізу ў Клайпедзе, а Ніда ператваралася ў еўрапейскі курорт, які немагчыма параноўваць з так званай «глыбінкай». Я ж ведаў Ніду савецкага часу, калі яна і была гэтай «глыбінкай», дзе мажная, з чырвоным тварам Маруся з Мурманска спрытна змешвала гарэлку з півам у ці не адзінай на ўсю Ніду шкляной забягалаўцы. Па сутнасці, яна была гаспадыняй усёй мясцовасці — толькі ад яе залежала, наліе ці не наліе, бо ведала, каму колькі трэба, каб не заснуць тварам у талерцы з рыбінымі косткамі... Сёння ў Нідзе на кожным кроку кавярні з неймавернай колькасцю разнастайных напояў з усяго свету. Людзі тут — і прыезджыя, і мясцовыя — у асноўным з грашыма, але ніводнага п'янага, нават падвыпіўшага я не сустрэў... «Співаюцца» — гэта не пра літоўцаў...

### Пакуль у нас грыміць «бітва» за ўраджай, літоўцы збіраюць 4 мільёны тон збожжа на 3 мільёны жыхароў

Чаму ж я лічу, што літоўцам усё удалося, а нам не? Што гэта «ўсё»?

Карэнную памылку робяць тыя, хто вымярае ўсё з чыста спажывецкіх пазіцый: якія заробкі, пенсіі, колькі каштуюць і якой якасці хлеб, кілбаса... Заўважу, што і ў большасці гэтых пазіцый Літва адрозніваецца ад нас відавочна. Не буду паглыбляцца ў падрабязнасці, але адзін не зусім відавочны прыклад уразіў: пакуль у нас грыміць «бітва» за тону збожжа на аднаго з 9, 5 мільёна, сціплыя і працавітыя літоўскія фермеры збіраюць звыш 4-х мільёнаў тон на 3 мільёны жыхароў... Вось вам і «закінутыя палі». Дарэчы, свабоднай зямлі ў Літве сапраўды нямала... Там, дзе нявыгадна, — не сеюць.

Але ці можна са спажывецкіх пазіцый меркаваць аб такой універсальнай каштоўнасці, як свабода? Маўляў, свабода, аб якой маліліся літоўцы, не прынесла чаканага поспеху — «бягуць», «співаюцца»... Але свабода — не гарантыя жыццёвага поспеху асобы ці гістарычнага поспеху нацыі. Яна ўсяго толькі перадумова такога поспеху, які складаецца з мноства іншых спрыяльных і не вельмі абставінаў. Але перадумова, без якой жыццёвы ці гістарычны поспех недасягальны. Вось чаму свабода ў маім разуменні — усё.

Станьце на бераг Балтыйскага мора побач з літоўцам і паспрабуйце параўнаць сваё і ягонае светаадчуванне. Яно адрозніваецца не толькі тым, што мы без візаў нікуды не паедзем. Перад літоўцамі адчынены ўвесь свабодны свет. Наша ж светаадчуванне да сёння замкнёна ў савецкім бараку, дзе пара цёплых споднікаў лічылася прыкметай жыццёвага поспеху, які трэба ад усіх навокал бараніць з дапамогай балістычных ракет...

# Таямніца перамог ізраільскай зброі

Дзве дзяўчыны з Гродна адслужылі ў ізраільскай арміі.

Гродзенкі Лена Шайкоўская і Света Моўчун, праўнучкі КПЗБ-оўца Лазара Шайкоўскага, распавядаюць пра вопыт службы ў войску на «Святой зямлі».

У Ізраілі маюць адслужыць усе: і хлопцы, і дзяўчаты. Прызыўны ўзрост — ад 18 год, калі ты сканчаеш школу. Спачатку — экзамен: некалькі пытанняў на камп’ютары, размова з псіхолагам, спартовыя тэсты. Праз месяц прыходзіць дакумент з найменнямі войскаў, да якіх ты здатны. Пажаданні ўлічваюцца, асабліва ад дзявочай часткі прызыўнікоў...

**— Колькі служаць у Ізраілі?**

**Света:** Хлопцы 3 гады, дзяўчаты — 2. Але калі дзяўчына ідзе ў баявыя войскі, таксама служыць тры гады. Я акурат так служыла у памежных войсках «Мішмаргвуль» — «Ахова мяжы». Аднак мы не стаялі на мяжы, а прысутнічалі ў раёнах, шчыльна заселеных арабамі. Я служыла ў Ерусаліме. Сама хацела ў баявыя войскі, таму мяне разам з іншымі на 2 дні вывезлі на вышкал: там паганялі, глядзелі, змагу ці не. Змагла.

**Лена:** А я — два. У тэхнічных войсках — спецыялізавалася на камп’ютарах.

**— Гэта прэстыжна?**

**Лена:** Так.

**Света:** Ёсць тыя, хто хоча служыць, ёсць тыя, хто «косіць» — паўсюдна тое самае.

**— Плацяць?**

**Лена:** Звычайна плацяць каля 100 даляраў у месяц, аднак мы лічыліся салдатамі-«адзіночкамі» (без сям’і ў Ізраілі), таму нам плацілі каля 500 — гэта і на з’ём кватэры, і на ежу... Пры гэтым ёсць часам магчымасць падпрацоўваць. У нас не так, як у вас. У неслужбовы час можна ісці па сваіх справах. Я, напрыклад, часта начавала ў хаце. Света 10 дзён была ў войску, 4 у хаце. Паколькі большасць жыве з сем’ямі, гэтыя 100 даляраў у асноўным ідуць на «пагулянкі» ды адзежу.

**— Ёсць нешта кшталту «курса маладога байца»?**

**Света:** Так, гэта называецца «Ціранут». У мяне ён трываў 4,5 месяца недзе. Нас вучылі страляць, кідаць гранаты, праходзілі рукапашны бой. Ёсць, напрыклад, такі від рукапашнага бою, як «краў мага» — «мастацтва абароны». Гэта ізраільскае вынаходніцтва, прызначанае для абароны, а не для нападу. Бывала, вывозілі ў пустыню на тыдзень, там мы харчаваліся сухім пайком, вывучалі навігацыю па зорках, шмат іншых рэчаў.

**Лена:** Бывае па-рознаму: у хлопцаў «Ціранут» цягнецца звычай год, таму яны і служаць у выніку тры. Мой курс трываў усяго 2 тыдні. Я заставалася яшчэ, каб зрабіць «Гіюр» — прыняць рэлігію, аднак не давучылася. Гэта адна з магчымасцяў, якую дае войска.

**— Што значыць «прыняць рэлігію»?**

**Света:** Мы там не лічымся габрэйкамі, бо ў нас габрэем быў дзядуля. Там жа ўсё ідзе па жаночай лініі. А войска дае магчымасць прайсці, так бы мовіць, «шлях да рэлігіі». Гэта курс па вывучэнні традыцыі, гісторыі, рэлігіі, практыкі малітвы. Часам вывозяць да рэлігійных сем’яў, хлопчыкам робяць абразанне. У цывільным жыцці «Гіюр» зрабіць значна складаней.

**Лена:** Без «Гіюра» немагчымае далейшае прасоўванне па армейскай лесвіцы, калі раптам ты вырашыш застацца на кантракце. Раней наогул на тэрыторыі Ізраіля негабрэям паміж сабой нельга было зарэгістраваць шлюб — усе ездзілі на Кіпр. Цяпер гэта ўжо магчыма.

**Света:** Са мной служыў хлопчык-араб. У яго на вёсцы яго не любілі, сям’я ад яго адраклася... У сувязі з гэтым армія яму па-рознаму дапамагала, аплочвала з’ём жытла.

**— Якія бытавыя ўмовы?**

**Света:** Бываюць розныя базы, залежыць ад роду войскаў. Звычайна жывём у дамках з пакоямі. У пакоі ад двух да пяці чалавек. Харчаванне асобнае, у залежнасці ад рэлігіі, тры разы на дзень: раніцай і ўвечары кашы, нешта малочнае, бульба. У абед — мяса з гарнірам. У шабат (суботу) мяса даецца два разы на дзень.

**Лена:** Усе папраўляюцца пасля войска, ежа вельмі каларыйная.

**— Альтэрнатыўная служба ёсць?**

**Света:** Так, можна адпрацаваць год альбо ў бальніцы, альбо з дзецьмі-інвалідамі. Вялікі адсотак рэлігійнай моладзі не прызываецца ў войска, а праходзіць альтэрнатыўны курс. Для іх таксама пасля ёсць зніжкі і дапамога, але ўжо меншая, чым для вайскоўцаў.

**— Хлопцы з дзяўчатамі жывуць разам?**

**Света:** Разам могуць служыць, але жыллё, прыбіральні, душ — асобна. Ёсць нават правіла, па якім на «курсе маладога байца» хлопец не мае права дакранацца да дзяўчыны. Быў нават такі выпадак: служылі разам сястра з братам, і брат атрымаў пакаранне за тое, што дапамог падняцца сястры.

**Лена:** Дзяўчатам нельга нават глядзець на хлопцаў. Але пасля «курса» ўсё ўжо не так сурова.

**— Узаемаадносіны, зразумела, таксама забароненыя?**

**Света:** Ну... на «курсе» за гэтым вельмі сочаць, а пасля ўжо як атрымаецца *(смяецца)*.



Хлопцы і дзяўчаты служаць разам, жывуць — асобна.



Лена і Света з вайсковымі пасведчаннямі.



Звычайны здымак для ізраільскага «дзембельскага альбома».



Ідзеш на службу — не забудзь сумачку ды сонечныя акуляры.



Блокпост у Ерусаліме.

**— Ці існуе нешта кшталту «дзедаўшчыны»? Ці «бабшчыны»?**

**Света:** Ёсць катэгорыі: «старэнькія» і «маладзенькія». Найлепшыя блокпасты ў Ерусаліме аддаваліся «даўгаслужачым», зразумела. Менш камфортныя — новенькім. Няма нейкіх здзекаў, але лепшае аддаецца старэйшым, малодшым — троху горшае. Вось і ўсё.

**— Войска дае нейкія сацыяльныя гарантыі?**

**Света:** Падчас тваёй службы ідзе накапленне грошай за кожны месяц на адмысловым рахунку. Я атрымала 5000 даляраў, Лена — 3000. Баявыя войскі даюць, зразумела, большыя грошы.

**Лена:** Нават пасля службы адмысловыя арганізацыі працягваюць табой апекавацца — аплочваюць вучобу, дапамагаюць з працай. Арганізацыі дзяржаўныя, але самі габрэі таксама ахвяруюць у іх, каб дапамагчы тым, хто адслужыў.

**— Як гэта — служыць у атмасферы перманентнай вайны?**

**Света:** У асноўным ідзе гульня ў «кошкі-мышкі»: арабы пачынаюць кідацца ў наш блокпост камянямі ці кактэйлямі Молатава. Але пры гэтым трэба стрымлівацца і не страляць да апошняга — калі гэта не твой адзіны шанец выбрацца жывым. За гэтым вельмі сочаць. Нават калі ў нас кідаюцца камянямі, трэба яшчэ доўга чакаць дазволу, каб разагнаць іх газавымі гранатамі, напрыклад.

Падазронаму чалавеку, па інструкцыі, трэба крыкнуць, каб ён спыніўся, на трох мовах: на іўрыце, на ангельскай і па-арабску. Пасля трэба навесці на яго рулю, калі ён працягвае ісці — стрэліць у паветра два разы. Не дапамагае — трэба страляць па нагах і толькі пасля, калі ён яшчэ спрабуе нешта зрабіць, — у галаву.

Гэта палітыка ўсё...

**Лена:** Я жыву ў Ашдодзе, там ніякіх баявых дзеянняў няма. Але раптам гучыць сірэна і падае ракета... Побач з Сектарам Газа дзеці, перш чым казаць «тата-мама», вывучваюць слова «цэвадом» — «сірэна», «трывога». Я плакала, калі ўпершыню гэта пачула...

**— І вы таксама адчуваеце нейкі негатыў да арабаў ці мусульманаў наогул?**

**Лена:** Я іх ненавіджу.

**Света:** Гэта дае свой адбітак: і служба, і тое, што ты бачыш. Арабы таксама ёсць розныя: на поўдні краіны вельмі рэлігійныя і злыя. Там і здараюцца баявыя дзеянні. Арабы з поўначы больш свецкія і спакойныя, сярод іх шмат хрысціянаў.

**— На вашу думку, у чым таямніца перамогаў ізраільскай зброі?**

**Лена:** Людзі ў пастаянным напружанні жывуць, заўжды да ўсяго гатовыя, да розных сітуацыяў. Гэта неяк мабілізуе.

**Света:** Усе габрэі кажуць, што іх Бог абараняе. А я думаю, што справа ў еднасці паміж людзьмі. Калі я толькі прыехала і дзяўчаты даведаліся, што ў мяне нікога няма, апроч сястры, тут, адразу пачалі ўсюды запрашаць, на ўсе святы, дапамагалі, чым маглі. Усе людзі ў краіне трымаюцца адзін за аднаго, дапамагаюць. Вось так.

**Гутарыў Алесь Кіркевіч**

# Якія пасады стабільна вядуць за краты?

**Чыноўнікі і менеджары год за годам здзяйсняюць аднолькавыя злачынствы.**

Нядаўна «выстралілі» некалькі гучных справаў. Аказваецца, у недалёкім мінулым былі абсалютна аналагічныя злачынствы. Прабелы ў заканадаўстве ці дрэнная аўра кабінетаў?

У кастрычніку 2011-га ў працоўным кабінеце затрымалі начальніка сакратарыята савета рэспублікі рацыянальнага сходу Глеба Бядрыцкага. На яго завялі крымінальную справу, абвінаваціўшы ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі і злоўжыванні службовым становішчам. Вядома, што Бядрыцкі звяртаўся да Аляксандра Лукашэнкі з хадайніцтвам аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці. Але яно не было задаволена. І ў жніўні справу перадалі ў суд.

Не выключана, што працэс над Бядрыцкім будзе закрытым, якім ён быў, калі судзілі Уладзіміра Холада. Былы першы намеснік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта ў 2007-м за махлярства, падбухторванне да дачы хабару атрымаў 8 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

### Нават шкоду наносяць роўную

Нядаўна чарговы раз працягнулі тэрмін расследавання крымінальнай справы супраць экс-старшыні наглядной рады «Тэхнабанка» Уладзіслава Кацарэнкі. Справу завялі па артыкуле «дапамога ў здзяйсненні злачынстваў» і «ўхіленне ад выплаты падаткаў». Ён абвінавачваецца ў тым, што пры дапамозе падкантрольных ілжэпрадпрымальніцкіх структур, зарэгістраваных у Беларусі і Расіі, якія маюць рахункі ў прыбалтыйскіх банках, аказваў садзеянне ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, даючы рэквізіты, падробленыя дакументы. Шкода, нанесеная дзяржаве, ацэньваецца больш як у 7 мільярдаў рублёў.

Роўна ў такую ж суму ацэньвалі шкоду, нанесеную дзейнасцю Ігара Крапчука. Экс-дырэктара «Эмір Мотарс» (імпарт аўтамабіляў «Таёта») арыштавалі ў ліпені 2007-га. Яго абвінавачвалі ва ўхіленні ад выплаты мытных плацяжоў. А таксама ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. Пакуль доўжылася расследаванне, родныя сабралі 7 млрд рублёў для выплаты нанесенай шкоды. І тады асудзілі Крапчука на 5 гадоў калоніі без канфіскацыі. Але ў 2009-м ён атрымаў па іншай справе — дача хабару і махлярства — 6 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці. Пасля таго як ён адбыў палову тэрміну за кратамі, новы суд адправіў яго на «хімію».

### Скрасці грэх не скрасці

Нявыплата падаткаў — справа частая. Сёлета на адным са смаргонскіх заводаў выяўлены факт недаплаты на суму 817 млн рублёў. Кіраўнік прадрыемства пераплаўляў металалом, а атрыманыя зліткі прадаваў у сталіцу. Закупляў металалом з рук за наяўныя, а ў дакументах афармляў як закуп ад ілжэструктур ды па завышаных цэнах. Расследаванне яшчэ не скончана.

Тут прыгадваецца справа Валянціна Дандорфа, заснавальніка асацыяцыі швачных прадпрыемстваў «Дзіёма» ў Брэсце. Затрыманы КДБ у чэрвені 2009-га. Абвінавачваўся ва ўхіленні ад выплаты падаткаў на суму 600 млн рублёў. Нанесеную шкоду кампенсаваў да прысуду. У лістападзе 2011-га яго асудзілі на 2,5 года турмы з канфіскацыяй маёмасці.

### Пад прыцэлам фінансавая міліцыя

Летам у Мінску затрымалі старшага інспектара Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю. Па звестках КДБ, палкоўнік некалькі гадоў атрымліваў ад бізнэсоўцаў сталіцы грошы за вырашэнне пэўных праблемаў, звязаных з праверкамі. На гэтыя грошы палкоўнік пабудаваў двухпакаёвую кватэру. Ён добра канспіраваўся, але ўрэшце яго затрымалі пры атрыманні хабару 2,5 тысячы даляраў. Акрамя гэтага, затрыманы сваім калегам здаваў службовую кватэру, а атрыманыя грошы не дэклараваў.

У звязку з гэтай можна разглядаць справу Генадзя Гапоненкі, былога начальніка следчага ўпраўлення ДФР КДК. У 2009-м ён быў прызнаны вінаватым у злоўжыванні ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі. Нібыта паспрыяў спыненню крымінальнай справы супраць знаёмага бізнэсоўца. Асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці. Затым па амністыі яму год скінулі, а па касацыйнай скарзе адмянілі канфіскацыю. Абвінавачваўся таксама ў махлярстве і атрыманні хабару. Але па гэтых эпізодах быў апраўданы.

### Паляцелі афіцэрскія пагоны

Да кастрычніка працягнулі тэрмін расследавання крымінальнай справы і супраць Яўгена Полудня. На момант арышту ў снежні 2011-га ён быў намеснікам міністра ўнутраных спраў. Яго абвінавачваюць у злоўжыванні і перавышэнні ўлады альбо службовых паўнамоцтваў. Следства лічыць, што Полудзень сістэматычна атрымліваў ад службовых асоб органаў унутраных спраў матэрыяльныя каштоўнасці і грошы.

Менш высокую пасаду ў МУС займаў Мікалай Кудзелка. Ён быў намеснікам начальніка камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. У маі 2009-га асуджаны на 9 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Суд прызнаў Кудзелку вінаватым у атрыманні хабару на суму больш за 800 тысяч даляраў (разам з ім па гэтай справе праходзіў Ігар Крапчук), злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, незаконным набыцці боепрыпасаў. Крымінальную справу супраць яго завялі толькі ў 2007-м, пасля таго як ён выйшаў на пенсію.

**Сяргей Макарэвіч**

# «Думаеце, у Беларусі такое немагчыма?»

**Польскія хуліганы збілі ў Варшаве актывістаў «Хартыі».**

12 жніўня ў Варшаве павінен быў адбыцца футбольны турнір беларусаў-эмігрантаў. Браць удзел збіраліся каманды тэлеканала «Белсат», «Еўрарадыё», «Еўрапейскай Беларусі» і Беларускага інфармацыйнага дома. Дамовіліся з адной з гімназій на правабярэжжы Віслы, у раёне, які называецца Прага.

Але, калі беларусы прыехалі на стадыёнчык, там ужо гулялі палякі. Калі ж вартаўнік папрасіў вызваліць поле, на адрас беларусаў пачуліся пагрозы. Беларусы павесілі на агароджы бел-чырвона-белыя сцягі, палякі кінуліся іх зрываць. «Зараз пад'едуць нашы сябры з бітамі!» — крычалі яны.

У гэтым пабытовым канфлікце судырэктару Беларускага дома Змітру Бародку зламалі нос, а фотажурналісту сайта charter97.org Івану Мяжую разбілі галаву і зламалі палец. Калі ўлічыць, што Бародка мае пад два метры росту, становіцца ясна, што і палякі трапіліся не хлюпікі.

Пакуль пад'ехала паліцыя, нападнікі ўжо зніклі. Але іх апазналі па фотах і затрымалі. Цяпер ім пагражае да трох гадоў зняволення.

«Думаеце, у Беларусі такое немагчыма? — адказаў Зміцер Бародка на пытанне «Нашай Нівы», ці не падумаў ён пасля гэтага пра вяртанне ў Беларусь. — Я займаюся арганізацыяй футбольных турніраў каля дзесяці гадоў. І ўсялякае здаралася. Хуліганы сустракаюцца, на жаль, і ў нас».

Дарэчы, інцыдэнт адбыўся на вачах двух Змітровых маленькіх сыноў, якіх тата ўзяў на стадыён з сабой.

**Кастусь Матушыч**





Волату Змітру Бародку хуліганы зламалі нос.

## Сцісла

### Ямка на МКАД — 14 машын у аварыі

Гэта здарылася раніцай у аўторак 14 жніўня ў гадзіну пік. Каля аўтарынка ў Малінаўцы Alfa Romeo трапіла колам у яму. Кола «стрэліла», кіроўца паспрабаваў утрымаць аўто. І ў гэты момант спадарожны аўтамабіль урэзаўся ў яго. Гэта спраравакала ланцуговую рэакцыю. Усяго, па інфармацыі ДАІ, у аварыю трапіла 14 машын. Пакуль не вядома, ці адкажуць за калдобіну дарожнікі.

### Няўдалае знаёмства

Тры 20-гадовыя мінчанкі затрыманыя па падазрэнні ў разбойным нападзе. 55-гадовы грамадзянін Ізраіля пазнаёміўся з імі на начной дыскатэцы і запрасіў іх да сябе на здымную кватэру. Па прыездзе, пакуль дзве сяброўкі забаўлялі замежніка, трэцяя скрала ў яго пачак даляраў. Мужчына заўважыў, устаў у дзвярах і не выпускаў. Тады дзяўчаты дасталі нож...

### 14-гадовая вырашыла, што жыццё скончылася

Вучаніца 10-га класа адной са сталічных школ скокнула з даха 22-павярховага дома на вуліцы Шугаева. Пакінула паведамленне на відэа: прашу нікога не вінаваціць.

### Затрымалі шпіёна?

КДБ паведаміў, што затрымаў 28-гадовага жыхара Брэста пры спробе збору інфармацыі пра грамадзян Беларусі «па заданні замежнай спецслужбы». У адносінах да яго заведзена крымінальная справа па арт. 356-1 КК РБ «Устанаўленне супрацоўніцтва са спецслужбай, органам бяспекі альбо разведорганам замежнай дзяржавы на канфідэнцыйнай аснове пры адсутнасці прыкметаў здрады радзіме». Гэта адносна новы артыкул: не шпіянаж, а проста збор звестак.

### Матацыкліст наехаў на дзіка

21-гадовы жыхар Пінскага раёна на «Яве-350» наехаў на дзіка, перакуліўся і загінуў. І шлем не ўратаваў. Здарылася гэта на дарозе Брэст — Мінск ля вёскі Залужжа 19 жніўня.

### Прадавалі арандаваныя аўто

Злачынная група з Расіі брала ў Мінску напракат аўтамабілі, якія затым прадавала беларусам. Падазраваныя ў махлярстве карысталіся падробленымі пячаткамі ДАІ, з дапамогай якіх аўто самастойна «здымалі» з уліку. Хто набыў аўтамашыны ў круцялёў, страцілі вялікія грошы.

### Аўтамабіль праваліўся пад зямлю

«Пежо» праваліўся пад зямлю, калі прасела дарога на праспекце газеты «Звязда» ў Мінску. Правал утварыўся з-за падмыву грунту. Ніхто не пацярпеў.

**КМ**

# У Шчучынскім раёне знойдзены загадкавы камень

Магчыма, нават дагістарычны.

Група краязнаўцаў, якая захапляюцца гісторыяй авіяцыі Другой сусветнай вайны, у часе адной з экспедыцый у Панямонне знайшла зусім не тое, на чым яна спецыялізуецца. Камень, а на камені — крыж, а на іншым баку — некалькі людскіх постацяў.

Акадэмічныя археолагі паставіліся да знаходкі скептычна, адразу прыгадваючы «сенсацыйны» Расонскі ідал, які аказаўся свежай падробкай.

«Дзіўна, што ікону толькі знайшлі, а ўжо смела называюць час стварэння — XVII стагоддзя, — дзеліцца сумневамі Максім Чарняўскі. — Каб дакладна гаварыць, яе трэба даследаваць».

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Эдвард Зайкоўскі таксама ў ацэнках асцярожны: «На фотаздымках я не заўважыў ніякіх хрысціянскіх матываў: выява чалавека з узнятымі рукамі не характэрная для хрысціянства, больш нагадвае дагістарычныя малюнкі».

«Першыя каменныя іконы з’явіліся ў Беларусі нашмат раней, — расказвае спадар Зайкоўскі. — Захаваліся шыферныя абразкі з XIII стагоддзя. Гэта вырабы з мяккага каменя, які прывозілі да нас з поўначы Украіны».

Дзмітрый Кіенка, адзін з гісторыкаў, якія знайшлі камень, пакуль расказвае мала: «Ікона знаходзіцца на тым самым месцы, дзе мы яе знайшлі. Болей інфармацыі, чым тая, што была ў інтэрнэце, мы даць не можам. Толькі варта ўдакладніць, што насамрэч мы маем не адзін, а тры варыянты. Па-першае, гэта могуць быць XVII—XVIII стагоддзі, але тады гэта не ікона, а надмагільны камень. Калі гэта ікона, то яна будзе датавацца XV—XVI стагоддзямі. А магчымы і трэці варыянт, што гэты камень захаваўся з дагістарычных часоў».

У апошнім выпадку крыж мог быць дабаўлены пазней.

Што тычыцца месца, то Дзмітрый Кіенка яго не выдае: кажа толькі пра поўдзень Шчучынскага раёна.

Краязнаўцы маюць намер перадаць знаходку ў адзін з музеяў.

Як і выпадку з ідалам, сумневы выклікае тое, што камень выглядае як «новы», без слядоў моху і налётаў.

У інтэрнэце ўжо множацца ідэі, што на камені насамрэч выяўленыя іншапланетнікі. Надта ж незвычайныя гэтыя формы.

**Юрась Ускоў**


Некаторыя лічаць, што на камені выявы іншапланетнікаў.

## «Скорпіёнз» прывязе вецер перамен, а за імі прыедзе Мэрылін Мэнсан


Сцэнічны псеўданім Мэнсана складаецца з імя Мэрылін Манро і прозвішча аднаго з самых небяспечных маньякаў у гісторыі ЗША.

Да канца года ў Мінску выступяць спявачка Джэніфер Лопэс, «першая скрыпка» сусветнага джаза Жан-Люк-Панці, гурт Scorpions і самы экстравагантны музыка сучаснасці — Мэрылін Мэнсан.

Самае цікавае ў выпадку з Лопэс — ці здолеюць арганізатары цалкам задаволіць райдар спявачкі.

Жан-Люк Панці — жывая легенда джаза 60-х — адзначыць у Мінску сваё 70-годдзе канцэртам у цырку ў межах фестывалю Юрыя Башмета.

Scorpions другі раз запар завітаюць да нас з развітальным канцэртам. У Маскве такіх «апошніх» канцэртаў было як мінімум тры, але ніхто не супраць: гледачы з радасцю «развітаюцца» з гуртом яшчэ хоць пяць разоў.

Самай нечаканай навіной стала з’яўленне на афіцыйным сайце амерыканскага спевака Мэрыліна Мэнсана інфармацыі, што 22 снежня ў Мінску адбудзецца ягоны канцэрт. Вось толькі дзе? У «Мінск-Арэне», самай лагічнай для Мэнсана пляцоўцы, у гэты дзень будзе хакей. Палац спорту і Палац Рэспублікі таксама занятыя.

Не меншай інтрыгай была рэакцыя на выступ спевака Грамадскай Рады па маральнасці, якую ўзначальвае Мікалай Чаргінец. Бо Мэрылін Мэнсан не толькі выглядае незвычайна. Пра ягонае шоу і скандальныя паводзіны на сцэне складаюць легенды. У яго здараўся нават сэкс на сцэне з гітарыстам Nine Inch Nails у 1995-м. Нават сцэнічны псеўданім Мэнсана эпатажны: ён складаецца з імя Мэрылін Манро і прозвішча аднаго з самых небяспечных маньякаў у гісторыі ЗША — Чарльза Мэнсана, які ўжо сорак гадоў адбывае пакаранне за масавыя забойствы.

Мікалай Чаргінец, паводле яго прызнанняў, ніколі не чуў пра Мэнсана і кліпаў ягоных не бачыў. «Яму патлумачаць, што ў нас ёсць закон аб адказнасці за такія рэчы. І ён гэта падчас канцэрта ўлічыць!» — кажа пісьменнік-генерал.

Нагадаем, падчас прыезду ў Мінск гурта Rammstein Рада па маральнасці пратэставала супраць скандальных шоу немцаў. У чэрвені Генпракуратура забараніла канцэрт англійскага гурта Death in June, назваўшы музыкаў неафашыстамі.

Ва ўсіх суседніх краінах Мэнсан выступаў не раз і без усялякіх эксцэсаў. Гэты спявак мае сваю аўдыторыю.

**ЮУ**

Вялікае побач

## Хрэснік бабы Ларысы

Піша **Усевалад Сцебурака**.

У панядзелак пад раніцу, калі адгулі ў галаве спевы развітальнай вечарыны Астравецкага паэтычнага фэсту, прысніў я колішняга аднагрупніка — Дзімку Саванца са Слоніма. Так і прысніўся, як бачыў я яго апошні раз — у ботах, вайсковай вопратцы з пагонамі лейтэнанта. Разам з ім прыснілася і гвардыі фельчарка Зянонаўна — суровая жанчына няпэўнага веку з негвардэйскай стомай у вачах. Стаялі яны ў атачэнні сумных свежапаголеных зялёных салдацікаў, якіх вазілі на дадатковую медкамісію ў Навінкі, каб з дапамогаю профільных спецыялістаў зафіксаваць сімуляцыю і тым самым звесці на нішто апошні шанец байцоў «закасіць на галаву» і ўцячы дадому. У халодным пераходзе пад мінскім чыгуначным вакзалам стаяла гэта дзіўнае войска з прыкметамі разлажэння і пераміналася з нагі на нагу. Праз сон гулі цягнікі, Дзімка нешта хацеў мне сказаць, але муляла падушка, у акно лезлі прамяні сонца і з сябрам я не пагаварыў...

Падняўся, заварыў каву і падумаў: добра, што прачнуўся. Ды і каб не прачнуўся: пра што гаварыць, што пытацца? Што робіць дыпламаваны выкладчык гісторыі ў гэтым пераходзе, аб чым сумуе гвардыя, ці чаму беларускія хлапцы ў 18 гадоў з радасцю гатовыя атрымаць пасведчанне вар’ята, абы не служыць радзіме?...

Як згатавалася кава — я, праўда, палагаднеў. Усе ж дарэмна я так — было пра што паразмаўляць. Канечне, было!

З Дзімкам мне наогул было заўсёды прыемна пабавіць час — ён так цудоўна, сакавіта і пацешна, безумоўна свядома і выключна знарок, размаўляў на заходнебеларускай слонімскай трасянцы! Гэта быў талент! Гадуючыся ўлетку ў Зэльве пры бабулі, ён набраўся такіх зваротаў-абаротаў, такіх прыказак і прымавак, што цэлай фальклорнай экспедыцыі рафінаваных філфакаўскіх паненак за 5 год практыкі не сабраць.

Памятаю, на першым курсе, рассеўшыся колам каля Дзімкі, мы слухалі яго і смяяліся, як чэрці, чым падбухторвалі яго распавядаць яшчэ і яшчэ...

Аднойчы, вось так бессаромна робячы пародыі на землякоў — сяброў дзяцінства, суседзяў, бабціных сяброўак, — ён назваў неяк мімаходзь прозвішча Геніюш.

Памятаю, што мне раптам перастала быць смешна — як і не было ніколі. Суцішыўшы вэрхал і тым самым сапсаваўшы свята хлопцам, я пачаў распытваць артыста размоўнага жанру пра гэту бабіну сяброўку Ларысу... Безумоўна, я не чакаў нейкіх надзвычайных цікавостак, ашаламляльных адкрыццяў, але прозвішча — прозвішча! Памятаю, ледзь не за грудкі схапіў ад хвалявання — распавядай, маўляў, і без блюзнерстваў!

Што там асаблівага ведаў Дзімка? Ну, што па-беларуску размаўляла, далікатная была такая, што ў царкву хадзіла. І там, у гэтай мясцовай царкве, адгукнуўшыся на просьбу Дзімкавай бабці, у пачатку 80-х стала хроснай гэтага светлага аболтуса! У той час шмат каго так, таемна нават ад бацькоў, бабулі насілі да царквы і хрысцілі.




Пытаюся: мо сваячка нейкая, ці што? Дзімка кажа: ды не, проста бабця звярнулася да Геніюш, бо тая нікога не баялася — баба Ларыса згадзілася і пахрысціла...

Вось і ўся гісторыя... Размовы і забаўкі кампаніі пайшлі сваім ходам.

З тае размовы прайшло шмат часу. Лёсы развялі наш курс — каго ў боты, каго да іншае работы, а я ўсё як цяпер чую словы «не баялася — проста ўзяла і пахрысціла».

Якімі па-хобіцку наіўнымі, напэўна, падаваліся людзі спадарыні Геніюш, калі наогул маглі думаць, што чалавек, прайшоўшы эміграцыю і вайну, савецкія турмы і лагеры, не здрадзіўшы Пагоні і пражыўшы жыццё без савецкага грамадзянства, мог наогул нечага баяцца пасля?

Скончылася ў кубку кава, на язык трапіла горкае перамеленае зерне... Захацелася патэлефанаваць Дзімку. Мабільнік адказаў доўгімі гудкамі — не ўзяў. Напэўна, на варце... Усміхнуўся сам сабе. За абарону краіны я спакойны. Ды і наогул за сябра — такое хрышчэнне абараняе мацней за АКМ.

Піша **Павел Севярынец**.

# Кроў і віно кахання

*Пакладзі мяне як пячатку
на сэрца сваё,
пакладзі на руку,
як пярсцёнак,
бо каханне, як смерць, —
моцнае,
рэўнасць, як пекла, —
лютая,
стрэлы яго —
стрэлы агнявыя,
яно — полымя непагаснае.
Найвышэйшая
Песня Саламонава 8:6*



**Ліст з турмы ад Змітра Дашкевіча Насці Палажанцы.**

Як і ўсякае сапраўднае каханне, гэтая гісторыя была прадвызначаная.

Яму пайшоў чатырнаццаты год — узрост абмежаванай адказнасці паводле крымінальнага кодэкса, — калі ў Беларусі зацараваў Лукашэнка. Па тэлеку перадавалі інаўгурацыю, краіна адзначала надыход самаўладдзя на бліжэйшыя гадоў васямнаццаць, а ён, адзінае дзіцё беларускай сям'і, выхаваны ў Магаданскай вобласці, пратусіў свой дзень народзінаў у двары, з хлопцамі, з якімі хадзіў біцца на «раён». Пройдуць тыя самыя 18 гадоў, і апошнія дні народзінаў ён будзе сустракаць за кратамі: то ў Шклове, то ў Горках, то ў Глыбокім — бо хоча быць вольным нават у зняволенні.

Яна ў тым самым 1994-м яшчэ блукала пешкі пад сталом, але дзень яе нараджэння, 2 жніўня, праз тыдзень пасля абвяшчэння Дэкларацыі незалежнасці, на Ілллю і Дзень дэсантніка, з адпаведным знакам задыяка ды імем, якое перакладаецца як «уваскрасенне» — не пакідалі ніякіх сумневаў: расце львіца, спецназ у спадніцы, гатовая адчыняць неба для праліўных дажджоў і абвяшчаць кары загрузлым у грэху царствам.

Ён, вулічны баец з сэрцам Робін Гуда, кінуўшы свой аграрны ўнівер, прыехаў у Мінск змагацца з рэжымам — і выклікаў бы «на разы» любога, хто асмеліўся б сказаць, што ён не мае сілаў змяніць тут і цяпер увесь свет.

Яна, гламурная сталічная дзяўчынка, у якой раптам уваскрэсла дэсантніца з прарочым дарам, крычала на дэманстрацыях ды прарывалася праз кардоны ў пошуках сэнсу жыцця — і ўрэшце знайшла яго ў Маладым Фронце.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Кpropose Купліне Пружанскага раёна.

**З васьмі гадоў знаёмства чатыры яны па розныя бакі турэмных сценаў**

Калі вы думаеце, што ў гэты момант успыхнула палкая жарсць і позна ўвечары пасля шточацвярговай сходкі ў эмэфаўскай штабкватэры ўжо можна рыўком завешваць шторку — значыць, нічога вы не ведаеце ані пра МФ, ані пра нашых герояў, ані пра сапраўднае каханне.

Увогуле, гісторыі шчаслівых маладафронтаўскіх раманаў — юрыста-«вясноўца» Валянціна Стэфановіча і завадатаркі эмэфаўскіх чырлідараў, стваральніцы сайта dzietki.org Аліны Шалінай, рэдактара «Маладзёвага весніка», прыгажуна Цімы Дранчука і маладафронтаўскага амура, журналісткі «Камсамолкі» Волі Анцыповіч, віртуознага праграмайстра Аляксея Чарняева і харызматычнай кіраўніцы няўрадавых арганізацый Алёны Валынец, палітвязня, паэта Алеся Кіркевіча, якога забіралі за Плошчу праз некалькі дзён пасля вяселля з Надзеяй Крапівінай — часам круцейшыя за сюжэт фільма «Жыве Беларусь!».

Але «Дашкевіч+Палажанка» — love story, накалам і драматызмам параўнальная хіба што са шчасцем Барбары Радзівіл, таемна павянчанай з каралём Жыгімонтам Аўгустам, ці каханнем з-пад шыбеніцы Кастуся Каліноўскага да «Марысі чарнабровай».

Вакол Змітра, нашчадка вядомага шляхецкага роду, адкуль ваявода ВКЛ Яўстах Дашкевіч і кампазітар, аўтар музыкі да «Шэрлака Холмса і доктара Ватсана» ды «Сабачага сэрца» Уладзімір Дашкевіч, — сотні захопленых паплечніц ды прыхільніц у фронце, на працы, у царкве... Вакол пякучай брунеткі, стылёвай Настачкі, у сябрах, у сацыяльных сетках ды на вечарынах — сотні прыгожых, забяспечаных, густоўна апранутых хлопчыкаў. Няўрымслівы, дзёрзкі і ўпарты Зміцер. Настойлівая, моцная «сталёвая лэдзі» — Настачка. Абое — яскравыя лідары. У кіраўніцтве МФ ужо праблісквала немінучая схватка.

Але Госпад вырашыў усё нечакана.

Тут было ўсё: і ягонае паліто, аддадзенае ёй у РАУСе, калі разводзілі па камерах, і раніца на даху, дзе падымалі бел-чырвона-белы сцяг — «Горад наш!» — і палітычныя спрэчкі да хрыпаты, і замерлыя на паўслове перасохлыя вусны, і раптоўнае прадонне ў позірку.

Пяшчота. Рэўнасць. Крыўды. Дараванні.

Зміцер, які на адных «сутках» адседзеў у суме паўгода, асуджаны ў 2006-м на паўтара года за кіраўніцтва незарэгістраваным Маладым Фронтам, за дзень да Плошчы ў выніку правакацыі адпраўляецца ў турму і глядзіць у вочы следчым, якія з крывой усмешкай распавядаюць яму пра Настачку.

Настачку, студэнтку паліталогіі ЕГУ, намесніцу старшыні МФ, у 2007-м асуджаную паводле той жа 193.1, схопленую пасля Плошчы, вязуць у «амерыканку», дзе даюць чытаць паказанні на Змітра.

І, здавалася б, усяго-ткі справаў... Яму — напісаць адзін сказ у пустой паперцы, а ёй — папрасіць яго не ўпірацца, забраць ягоны пашпарт ды ехаць чакаць, пакуль адчыніцца ЗАГС.

Але насамрэч каханне — гэта калі ты гатовы аддаць сябе на спаленне дзеля таго, каб застацца вартым каханага.

Зміцер не хоча даседжваць ціхенька свае тры месяцы да снежня — і не выконвае незаконных загадаў, і адмаўляецца падпарадкоўвацца адміністрацыі, ідзе на прынцып. Ён ведае, што змаганне можа затрымаць сустрэчу з каханай на гады — але паводзіць сябе як Мужчына.

Менавіта такіх Мужчынаў кахаюць такія дзяўчаты, як Наста.

Можна толькі здагадвацца, як разрываецца яе сэрца. Але маладая выцірае слёзы, каб ніхто не бачыў, знарок выстаўляе ў фэйсбук усмешлівую фотку і зноў едзе з адвакатам у калонію, складае бясконцыя скаргі, ладзіць марафон салідарнасці, штодня абзвоньвае права-абаронцаў, кіруе Маладым Фронтам — і піша, піша Змітру лісты.

Дойдзе? Ці ён зноў у ізалятары, дзе перапіска забароненая?..

Пакуль Зміцер сядзеў, Настачка двойчы (пад умоўным тэрмінам!) трапляла на «суткі» за акцыі ягонай падтрымкі.

З васьмі гадоў знаёмства чатыры яны па розныя бакі турэмных сценаў.

Дашкевіч, невінаваты і абвінавачаны, апляваны і асуджаны, цягне свой крыж. Як Ісус.

Ён і яна — са знакамітай евангельскай царквы «Ян Прадвеснік». Яна ўвесь час моліцца за яго. Ён кожны свой ліст завяршае цытатай з Бібліі.

І як гартуецца, як кшталтуецца дух на гэтых крыжовых шляхах, сярод чалавечай роспачы і злосці, у смуродных адстойніках, у бяссонных, ахрыплых этапах, «прэс-хатах» ды карцарах, дзе не паспіш на бетоннай падлозе ад холаду... У якую волю, якую моц пераплаўляецца страчанае здароўе ды спалены час...

І якое каханне выкоўваецца сярод гэтых векавых камянёў ды ржавых кратаў! Якое новае жыццё спее ў гэтых сэрцах, што не бачаць адзін аднаго, але так моцна б'юцца разам!

Толькі любоў, якая перасягае разуменне, і пачуццё, гатовае ахвяраваць сабой, урэшце падымаюць сцяг па-над цэлай краінай.

Пакуль жывыя такія сэрцы, пакуль беларусы і беларусачкі здольныя так аддаваць сябе адно аднаму — нас будуць біць, таптаць, высмейваць і рваць адчаем.

Але пакуль яны жывыя, такія сэрцы, як у Змітра і Настачкі, — нікому, вы чуеце, нікому не ўдасца перамагчы ў беларусах Бога.

*Куплін*

## Даведкі, каб здаць яблыкі? «Гэта феадальны здзек»

У Рэдакцыю звярнуўся чытач Мікола Бусел. Ён расказаў: у Акцябрскім раёне, каб здаць яблыкі нарыхтоўшчыку, трэба браць... даведку з сельсавета: «Люд абазваў гэта дурдомам. Нашто на прадукцыю ўласнага двара даведка?» — абураецца чытач.

У Любанскім сельвыканкаме нам сказалі: сапраўды, такі дакумент трэба для ўліку. І, маўляў, чаго перажываць: даведка выдаецца адзін раз на год, афармленне яе бясплатнае.

Так то так. А час на паход у сельсавет? А калі чалавек прывёз яблыкі, не ведаючы пра патрэбу даведкі?

Даведка, напэўна, патрэбна для ўліковых, бухгалтарскіх мэтаў. Але трохі непавагі да цяжкой летняй працы селяніна ў такой бюракратыі ёсць. Дый самім дзяржаўным канторам і органам — ім што, няма чаго рабіць, як выдаваць даведкі?

**Сямён Печанко**

**Апад за 500 рублёў**

Дарэчы, большасць дзяржаўных нарыхтоўшчыкаў сёлета прымаюць яблыкі па 500 руб/кг. Ураджай вялікі сёлета, таму і цэны нізкія. Але не ў крамах. Мінскія супермаркеты заваленыя імпартнымі яблыкамі за 12—20 тысяч за кілаграм. Бабулі на базарчыках просяць за купку белага наліву да 5000.

## «Трэба не высвятляць, хто самалёт праспаў»

Кіраўніку краіны трэба не самалёты лавіць, а прыслухацца да праўды, хто б яе ні казаў: У БЕЛАРУСІ НЯМА СВАБОДЫ СЛОВА.

Калі ўжо лятучыя мядзведзікі не здолелі гэта данесці, тады ўсе наземныя сродкі марныя.

**Андрэй-за-ўсіх-мудрэй**

**Афарызм**

**Выціскаючы з сябе раба, не кАпай на бліжняга.**

**Кнехт**



МАЛЮНАК СЯРГЕЯ ХАРЭЎСКАГА

# Сіняя галава. Што ў ёй?

**Раней такіх, як Ева, проста адлоўлівалі і збівалі. Радыкальныя прычоскі, татуіроўкі, пірсінг — нашто гэта ўсё? З фанамі трэш-культуры гутарыць Наталка Бабіна.**

Таямнічыя затокі і праліvы вуліцы Асаналіева поўныя разнароднага жыцця: у палісадніках кожнага пад'езда даўжэзных шматпавярховікаў цвітуць яркія ірысы і рамонкі, мамы з дзецьмі гуляюць у дварах, аўтобусы рухаюцца па раскладзе з дакладнасцю хвіліна ў хвіліну...

— Гэта днём так, — жартуе Глеб, — а вось прыедзьце сюды пасля заходу сонца, калі сілы зла збіраюцца ля ганкаў віннa-гарэлачных крамаў і выклікаюць сатану... З гэтымі прыхільнікамі вінна-гарэлачнага сатаны Глебу даводзіцца сутыкацца — у літаральным сэнсе слова — досыць часта.

### Хто такія «поцыкі»

Я знаходжуся ў кампаніі яркіх людзей: ярка-рыжая, з татуіроўкамі на ўсю руку і даўжэзнымі накладнымі вейкамі 19-гадовая Юля, 18-гадовая Наташа, з прычоскай розных адценняў чырвонага, і памянёны ўжо раней Глеб з галавой серабрыстага колеру, 21 год. Радыкальныя прычоскі, татуіроўкі, пірсінг, спецыфічная вопратка — гэтыя людзі прыцягваюць увагу.

— Так, увагай мы не абдзеленыя, — Ева шчыруе над галавой маладой кліенткі, і законапаслухмянае карэ на вачах ператвараецца ў нешта кшталту варонінага гнязда.



Трэш-культура, або авангард — так называецца гэты эпатажны стыль. Радаслоўную ён вядзе ад хіпі, панкаў, рокераў. Яго прыхільнікі слухаюць цяжкую музыку.

— Пару год назад такіх, як я, проста адлоўлівалі і збівалі, — кажа Ева. — Цяпер гэтага, канечне, менш. Але поцыкі ў спартыўных штанах і цяпер чапляюцца.

Хто такія поцыкі? Гэта тыя, хто сядзеў «на зоне», хто вырас у няшчасных сем'ях — словам, брытагаловыя пацаны ў майках і трэніках.

— Асабліва ў Шабанах, — дадае Глеб.

— Смяшкі ў спіну, каментары. Калі б я звяртала ўвагу на такое — даўно памяняла б стыль. Але стыль — гэта тое, што ідзе ўнутры чалавека, — удакладняе Ева.

### Але двух слоў не звяжуць

— Але нашто вам увогуле гэты эпатаж? Можа, такім выглядам лягчэй прывабіць хлопцаў? — пытаюся я.

— Не, амаль усе хлопцы наадварот аддаюць перавагу натуральнай прыгажосці. Тут хутчэй агіда да стэрэатыпаў. Чаму так многа значыць у грамадстве мода? Чаму людзі, як рабы, залежаць ад модных вытворцаў? Мода диктуе: вось так — і ўсе выглядаюць як інкубатарскія! Пра такіх, як я, «нармальныя» людзі гавораць: вы псуеце грамадства! Мы дзіўныя, з намі, магчыма, цяжка кантактаваць «нармальным», але мы вельмі творчыя і развітыя. Я вучуся ў Інстытуце парламентарызму і прадпрымальніцтва на бізнэс-адміністраванні. Там добрая адукацыя, якая сапраўды дапамагае развіцца і навучыцца прафесіі. Са мной вучыцца многа такіх гламурных дзяўчат, яны ўсе модненькія, у іх многа грошай — але ж, калі грошы адкінуць, што за душой застаецца?! Ды яны ж двух словаў не могуць звязаць! «Ну, ціпа» — толькі і цягнуць. І калі такія мяне не разумеюць — дык мне і не трэба іх разумення. Чаму, калі ў цябе татуіроўкі ці пірсінг, цябе не возьмуць на працу? Гэта проста страх перад новым і невядомым. Мне гэта не падабаецца, — кажа Ева.

Пафарбаваныя валасы, пірсінг, тату, сілікон — гэта проста прыкмета людзей, якія працуюць над сваім стылем, лічыць яна. Ева мае планы адчыніць салон прыгажосці. Заканчваючы свой палымяны дыялог, Ева нацягвае гумовыя пальчаткі, бярэцца за фарбу, і вароніна гняздо на галаве кліенткі робіцца сінім.

### Кліентка напісала ў падатковую

Ева працуе дома. У яе ёсць сталыя кліенты, яна спецыяльна замаўляе фарбы, ганарыцца, што яны ў яе вельмі якасныя, а некаторых колераў больш нідзе ў Мінску не знойдзеш.

— Пачалося з таго, што ў дзяцінстве хацела абрэзаць доўгія валасы. Мама не дала грошай на цырульню, і я абстрыглася сама. Мама, калі пабачыла, не паверыла, што я сама гэта зрабіла, стала дапытвацца, адкуль я ўзяла грошы. Як складаецца кантакт з кліентамі? Па-рознаму, кажа Ева.

Бывае, кліенты шчыра радуюцца. Але бывалі і супрацьлеглыя выпадкі. Стрыжэш незнаёмага чалавека, радыкальна мяняеш яму імідж... Адна дзяўчына, незадаволеная прычоскай, напісала заяву на мяне ў падатковую інспекцыю.

— І што?

— Ну што ж, заплаціла штраф... Гэта дробязь. Я ўжо прыкладна ўяўляю, якім будзе мой салон, дзе мне ўзяць першапачатковы капітал на яго адкрыццё, каго набіраць на працу, якія паслугі там аказваць.

### Ад тэлевізара адмовіліся

У клубы, на дыскатэкі гэтыя маладыя людзі не ходзяць. Там гламуршчыкі і гламуршчыцы, там пошла, там усё мераюць грошы. А вось рок-канцэрты наведваюць з задавальненнем. Са здымнай кватэры дзяўчаты папрасілі гаспадара забраць тэлевізар: ён ім не патрэбны.

...Вяртаючыся дамоў, я імкнулася ўявіць гэтых юнакоў і дзяўчат праз некалькі год: на працы, у радзільнай зале, са сваімі дзецьмі... У што трансфармуецца сённяшняе іх імкненне не быць як усе?

## Працягваецца набор у беларускамоўныя класы і садок у Гродне

Паважаныя бацькі!

З кожным годам пастунова павялічваецца колькасць крэатыўных беларусаў, якія хочуць вучыць сваіх дзяцей у школе і дзіцячым садку па-беларуску.

У мінулым навучальным годзе ў Гродне і раённых цэнтрах Гродзенскай вобласці было створана 20 новых беларускіх класаў.

Сёлета ў Гродне ў дзіцячым садку № 45 па вул. Сухамбаева, 5 адбываецца набор у беларускую рознаўзроставую групу. На пачатак ліпеня, паводле звестак начальніка аддзела адукацыі і аднаго з ініцыятараў стварэння беларускай групы Наталлі Кісель, было 9 ахвотных бацькоў.

Калі вы хочаце, каб вашыя дзеці раслі ў добрым, светлым атачэнні, ідзіце ў беларускую групу садка № 45.

Адначасова працягваецца падача заяваў у першыя і другія класы з беларускай моваю навучання. Базавымі беларускімі школамі на сёння з'яўляюцца СШ № 32 (Ленінскі раён), СШ № 34 (Кастрычніцкі раён).

*Сябры гарадзенскай Абласной рады Таварыства беларускай мовы*

**Дзіцячы садок №45.** Адрас: вул. Сухамбаева, 5. Заявы прымаюцца ў Ленінскім аддзеле адукацыі па адрасе: вул. Савецкая, 14, каб. 253, тэлефон — 74-07-85.

Тэлефон начальніка аддзела адукацыі гарвыканкама: 72-05-58 (Блажэй Сяргей Валяр'янавіч).

Прадстаўнік бацькоўскага камітэта: (029) 889-18-53; (029) 337-85-74, e-mail — nas_hovea@mail.ru (Наталля Кісель).

**СШ №32** (Ленінскі раён). Тэлефон сакратара школы: 41-31-92 (Баярчык Гелена Вацлаваўна).

Завуч пачатковай школы №32: (029) 787-43-54 (Багдановіч Валянціна Іванаўна).

E-mail: Sh32@mail.grodno.by

Ленінскі аддзел адукацыі: 72-10-65 (Аксана Сяргееўна).

Прадстаўнік бацькоўскага камітэта беларускіх класаў: 70-62-89, пасля 18.00 (Астроўская Аксана Барысаўна).

**СШ №34** (Кастрычніцкі раён). Тэлефон сакратара школы: 56-73-13. Завуч пачатковай школы №34: 56-25-46 (Вітко Алена Антонаўна).

E-mail: Sh34oktroo@mail.grodno.by

Кастрычніцкі аддзел адукацыі: 52-05-66 (Аляксандра Уладзіміраўна).

Тэлефоны гродзенскай абласной арганізацыі ТБМ: (029) 943-58-09 (Крой Аляксандр Ільіч), (029) 285-93-07 (Буднік Іван Фёдаравіч).

## Беларускамоўныя школы ў Мінску

**Гімназія №4** (Кунцаўшчына, 18). Навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах. Прэстыжная гімназія.

E-mail: gymn4@minsk.edu.by; т.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

**Гімназія №23** (пр. Незалежнасці, 45). Выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай, польскай моваў. Прэстыжная гімназія.

E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

**Гімназія №9** (Сядых, 10). Паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла. Прэстыжная гімназія. Т.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

**Гімназія №28** (Ракасоўскага, 93). Паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы. Прэстыжная гімназія.

E-mail: sch2@minsk.edu.by.; т.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

**Гімназія №14** (Васняцова, 10). Паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асноў эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў. Прэстыжная гімназія.

Т.: (017) 295-01-33, 295-21-31.

**СШ №190** (Нікіфарава, 19). Выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.

Т.: (017) 260-24-90; e-mail: sch190@minsk.edu.by.

**СШ №60** (Лібкнехта, 82). Навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.

Т: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**СШ № 68** (зав.Ахоцкі, 17). Набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.

E-mail: sch68@minsk.edu.by; т. (017) 243-76-82.

### Белмоўныя класы ў расійскамоўных школах

**СШ № 11** (Асаналіева, 14). Школа з агульнаэстэтычным ухілам.

Т.: (017) 277-45-34, 275-59-10.

**СШ № 72** (Халмагорская, 59). Сёлета будзе набіраецца адзін беларускамоўны першы клас. Дадаткова — вывучэнне англійскай мовы, мастацкі ўхіл.

Т.: (017) 246-53-71, 246-52-42.

**СШ № 108** (Уральская, 15). Спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.

E-mail: sch108@minsk.edu.by; т.: (017) 245-20-41.

**СШ № 131** (Убарэвіча, 74). Вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.

Т.: (017) 340-62-38, 345-14-12.

**СШ № 180** (Радужная, д.8, корп.3). Паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.

Т.: (017) 250-10-49.

**СШ № 209** (Рафіева, 91). Вывучэнне французскай мовы, вакальныя студыі, спартыўныя секцыі.

Т. (017) 274-69-71, 256-48-77.

**СШ № 110** (Брэсцкая, 66). Дзейнічае праграма «Здароўе».

Т. (017) 278-58-81, 278-11-12.

## Беларускамоўныя школы і класы ў краіне

### Барысаў

**ДУА «Беларускамоўная гімназія №2»** (вул. Нармандыя-Нёман, 22)

Т.: (177) 72-27-57.

### Брэст

**Пачатковая школа № 34** (Маскоўская, 386/1)

Т.: (0162) 42-02-72.

### Гомель

**Гімназія № 36 імя І. Мележа** (бр. Лізюковых, 16)

Т.: (0232) 48-10-25, 48-13-73.

### Магілёў

**СШ № 1** (Першамайская, 24)

Т.: (0222) 22-12-64; 31-07-85.

### Баранавічы

**СШ № 14** (Піянерская, 98)

Т.: (0163) 42-51-50.

### Навагрудак

**СШ №7** (вул. Драздовіча, 32). Падаць дакументы можна да 28 жніўня.

Тэл. (01597) 3-08-24.

## ІМПРЭЗЫ

### Рок па вакацыях-2012

**1 верасня ў мінскім парку Dreamland** адбудзецца штогадовы фестываль беларускай музыкі «Рок па вакацыях». У канцэрце возьмуць удзел гурты Akute, Pomidor/Off, Clover Club, Znich, J-J Bingz, ZM99 і Step Hall.

### Этна Млын

**26 жніўня ў музейным комплексе «Дудуткі»** — фэст «Этна Млын». Зранку на цэнтральнай плошчы музея пройдзе святкаванне адразу трох Спасаў. Наведнікаў музея чакае шляхетны пачастунак: арэхі, мёд, яблыкі і прысмакі. Музей дзеючых тэхналогій зноў дазволіць сваім гасцям уласнымі рукамі дакрануцца да мінулага. На фэсце пройдуць майстар-класы ганчарства ды кавальскай справы.

### Піратэхнічныя дажынкі ў Ваўкавыску

**25 жніўня пройдзе піратэхнічны фестываль «Дажыначны сноп — Ваўкавыск-2012».** У ім возьмуць удзел чатыры каманды прафесійных піратэхнікаў з Літвы, Польшчы, Расіі і Беларусі. Пачатак урачыстай часткі і канцэрта — 17.00, фінальнай часткай мерапрыемства стане піратэхнічнае шоу.

### Кулінарны фэст у Якуцкіх Горах: супербабка

**25 жніўня ў парку актыўнага адпачынку «Якуцкія горы» (Дзяржынскі раён, каля вёскі Якуты) а 13-й** пачнецца Кулінарны фэст. У праграме: прыгатаванне самай вялікай бабкі ў свеце, майстар-класы ад вядомых шэф-кухараў, парк кулінарных скульптур, масавы запуск кітайскіх ліхтарыкаў і шмат іншага.

## КАНЦЭРТЫ

### Кантабіле

**Ансамбль старадаўняй музыкі «Кантабіле» запрашае 25 і 26 жніўня а 12-й і 17-й** на серыю канцэртаў «Музычныя скарбы Еўропы» ў Нясвіжскім замку. Вы будзеце прысутнічаць пры камерным выкананні музычных твораў XVII—XIX стст.

### Бясэдар

**23 жніўня ў 18.30 у бары «Йо-ма-Йо» (Даўгабродская, 24)** — міні-фэст габрэйскай музыкі «Бясэдар».

### The Apples

**31 жніўня а 19-й у «Графіці»** — The Apple.

### Jazz&Latino: Benny D'Art

**22 жніўня а 19-й у «Графіці»** — Jazz&Latino: Benny D'Art.

### Cross B Band

**25 жніўня а 18-й у «Графіці»** — texas blues: гурт Cross B Band.

### Нагуаль

**30 жніўня а 19-й у «Графіці»** — «Нагуаль».

### Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва

**29 жніўня а 19-й у Вялікай зале Белдзяржфілармоніі** — канцэрт Ірэны Рэнаты Будрытэ-Кумер у рамках праекта «Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва». Бярэ ўдзел Альгірдас Будрыс (кларнет).

## ВЫСТАВЫ

### Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600—1800

**Да 4 лістапада ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600—1800» з калекцыі Музея Вікторыі і Альберта (Лондан).

Упершыню ў Беларусі будуць прадстаўлены рэдкія помнікі сусветнай культуры — творы жывапісу і скульптуры, керамікі і шкла, тэкстыль і адзенне, друкаваная графіка і малюнкі. Сярод іх — «Вайна і перамога» Пітэра Паўля Рубенса, «Партрэт Томаса Бэйкера» Джавані Ларэнца Берніні, «Партрэт маркізы дэ Пампадур» Франсуа Бушэ і «Арэлі» Нікола Ланкрэ…

# Вольнае паветра

**25 жніўня а 17-й на хутары Шаблі (вёска Малое Запруддзе, Валожынскі раён)** — «Вольнае паветра». Возьмуць удзел: «Гаротніца», Kriwi, «Троіца», «ДахаБраха» & Port Mone «Хмелева Project», Di Grine Kuzine, DJ Magic, DJ Gips, DJ Balkana, Baltic Balkan DJs, DJ Papa BO Selektah.






### Дзецям да школы

**Ад 23 да 31 жніўня ў выставачным павільёне па адрасе Я.Купалы, 27** працуе выстава «Нашым дзецям», на якой прадстаўлены ўвесь асартымент тавараў для дзяцей ад 0 да 18 гадоў. Тамсама да 31 жніўня працуе выстава «Дабрыдзень, школа-2012».



### 30-ы Сусветны чэмпіянат лесасекаў

**Ад 23 да 27 жніўня а 19-й у СК «Раўбічы».** Удзел у спаборніцтвах возьмуць найлепшыя дрывасекі з 31 краіны свету.

### Масонскія знакі ў замку Радзівілаў

**Да 18 верасня ў нясвіжскім Палацавым ансамблі XVI—XIX стст.** працуе выстава «Масонская калекцыя са збораў В.П.Федаровіча». Алегарычнасць і сімвалізм, уласцівыя масонскаму вучэнню, праілюструюць рэчы з прыватнага збору Вацлава Федаровіча — вядомага калекцыянера, уладара першага прыватнага музея ў Віцебску.

### Міракль аб Уршулі

**Да 28 верасня ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (Музычны зав., 5)** працуе выстава твораў мірскага тэатра-студыі «Мірская батлейка» пад назвай «Міракль аб Уршулі». На выставе вы даznаецеся, хто такі батлеечнік і ў чым сакрэт яго шапкі, што такое міракль і як яго ўбачыць…

### Яблычны Спас

**Да 1 верасня ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Яблычны Спас» мастака Алеся Сушы. Суша найперш вядомы менавіта сваімі жаночымі выявамі, кранальнымі і незвычайнымі. Аднак у экспазіцыю ўвойдуць творы, прысвечаныя не толькі традыцыйным для мастака жаночым вобразам, але таксама ўспамінам дзяцінства.

### Сума тэхналогій

**Да 28 жніўня ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** працуе выстава Генадзя Хацкевіча «Сума тэхналогій». Генадзь Хацкевіч — гэта мастак, які стварае свой ідэальны сусвет, дзе жыццё і ёсць творчасць, дзе асоба і ёсць мастацкі твор. Падобны парадыз Генадзь Хацкевіч стварае і на сваіх палотнах.

### 1+1=69

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) да 2 верасня** працуе выстава графікі Галіны Лазарчык «1+1=69». У экспазіцыі — малюнкі ў жанры эратычнай мініяцюры, у якой аўтар удала працуе на працягу апошніх гадоў. Мастачка ўлоўлівае ўсе магчымыя нюансы асабістага жыцця, у якім ад смешнага да трагічнага — адзін крок.

## ТЭАТРЫ

### 22 жніўня—1 верасня

**Беларускай драматургіі** — Sypemeda.

## КІНО

### Варушы ластамі — 2

Sammy's avonturen 2 / Sammy's Adventures 2 (2012)
Мультфільм / Прыгоды / Дзіцячае кіно

Верныя сябры назаўжды, чарапахі Сэмі і Рэй, атрымліваюць асалоду ад спакойнага жыцця паблізу акіяна, а таксама глядзяць толькі што вылупленых Рыкі і Элу. Раптам браканьер хапае вялікіх чарапах, яны патрэбныя яму для захапляльнага марскога шоу ў Дубаі. Цэнтральная фігура шоу, марскі канёк Вялікі Дзі, насвячае пачаткоўцаў у свае планы на грандыёзныя ўцёкі...





**Ты Apple?**

**У новую краму Apple на вуліцы Леніна ў Мінску задоўга да адкрыцця выцягнулася доўгая чарга.**

# 7D-кіно: ці варта грошай?

Патрабаванні для гульцоў — **быць цвярозымі** і важыць не больш за 100 кг.

Да Беларусі дабраліся 7D-кінатэатры. Ужо цяпер навінку пад назвай «Крутыя ствалы» могуць паспрабаваць на сабе жыхары Мінска і Гродна. Назваць гэты від адпачынку словам «кіно» складана, хутчэй — атракцыён. Зрэшты, і наліччыць сем вымярэнняў таксама цяжка.

Стэрэаакуляры даюць тры вымярэнні, рухомыя крэслы — чацвёртае, пырскі вады і мыльныя бурбалкі — пятае, інтэрактыўны ўдзел героя — шостае. Дзе ж тады сёмае, задумваецца мала хто. Тым больш у Турцыі ўжо прапануецца 9D-кіно...

Адна кабінка з прыгодамі працуе каля супермаркета «Максімус» у мінскім мікрараёне Сухарава, другую трэба шукаць у гіпермаркеце «Алмі» ў Гродне.

На дзвярах рознакаляровай кабінкі вісяць маніторы, на якіх транслюецца ўсё, што адбываецца ўнутры. Перад тым як паспрабаваць сябе, можна паглядзець на іншых удзельнікаў інтэрактыўнай гульні. Карціна выглядае камічнай: на цацачных конях, якія ўвесь час разгойдваюцца наперад-назад, сядзяць «героі» і страляюць з пісталетаў у пустэчу.

Паўтарыць іх прыгоды каштуе 25 тысяч рублёў. Трэба насунуць на вочы стэрэаакуляры і пасля на працягу ўсёй гульні абстрэльваць з пісталета ўсё, што варушыцца на экране, — ворагаў, дрэвы, кактусы. У тое, што не варушыцца — скрыні, куфры, — страляць можна таксама. Колькасць куляў неабмежаваная. Падрыхтуйцеся, што ад няспыннага націскання на курок могуць забалець пальцы.

Каб удзельнікі гульні не засумавалі, іх спачатку абдаюць пырскамі, пасля — мыльнымі бурбалкамі, а пры канцы фільма ад дзвярэй пускаецца нейкі дым. Можа, ён і дае сёмае вымярэнне?

Інструктары расказваюць, што звычайна удзельнікі прыходзяць кампаніямі і разыгрываюць першынство паміж сабой. Дарэчы, у кабінцы змяшчаюцца крэслы для чатырох чалавек.

**Ягор Марціновіч**

## Сцісла

### Адклад не ідзе ў лад

У Мінску працягваецца будаўніцтва пятага па велічыні ў Еўропе аквапарку. Раней меркавалася яго адкрыць у 2012 г. Цяпер стала ясна, што дабудуюць толькі ў 2013-м. Мегабасейны размесцяцца каля вадасховішча Дразды, ля з'езда з МКАД на праспект Пераможцаў.

### У метро — па картцы

З канца верасня жэтоны і праязныя можна будзе набываць па платыкавых картках. Але спачатку толькі на «Кастрычніцкай».

### Эстонія будзе прадстаўляць Швецыю

Пасля закрыцця шведскага пасольства інтарэсы скандынаўскага каралеўства ў Беларусі будзе рэпрэзентаваць Талін. Беларускі бок запатрабаваў ад шведаў адклікаць усіх сваіх дыпламатаў да 30 жніўня.

**Сяргей Гезгала**

**Рэкамендуем**

# «Бландзінка з характарам» прамяняла Данію на Валожыншчыну — і не шкадуе

Журналісты «НН» захапілі з сабой відэакамеру і наведалі сям'ю Наўродскіх-Яшчанкаў, каб на свае вочы пабачыць здзейсненую беларускую мару ў асобна ўзятай вёсцы.

Галіна Яшчанка — жанчына з характарам. Займецца за мяжой адукацыю, прэстыжную працу і нават мужа — і вярнуцца ў вёску пад Валожынам. Што гэта — фантастыка ці наіўныя ілюзіі?

Галіна з мужам Сяргеем пабудавалі ў вёсцы Карнюткі сучасны дом з усімі выгодамі. Асабліва ўражваюць вялізныя, ледзь не на ўсю сцяну, вокны, за якімі разлёгся шыкоўны краявід. Варта адзначыць таксама і ванны пакой, параўнальны па плошчы са сталічнай «аднапакаёўкай», і суперсучасную сістэму геатэрмальнага ацяплення. А яшчэ Галіна будуе свой бізнэс — стварае брэнд «Каралі», пад якім ужо прадаецца мыла з натуральных інгрэдыентаў і ў беларускамоўным аздабленні. Само ж галоўнае — у яе моцная сям'я, якая пачуваецца ў беларускай вёсцы вельмі ўтульна.

Галіна Яшчанка доўгі час жыла ў Польшчы, ЗША, Даніі. Галіне, прывабнай бландзінцы з моцным характарам, не бракавала мужчынскай увагі за мяжой. Але яна ведала, што яе муж абавязкова будзе беларускамоўным беларусам. Так тое і сталася. Некалькі год таму яны з мужам (таксама беларусам, з якім яна пазнаёмілася ў Польшчы) вырашылі вярнуцца ў Беларусь. Набылі вясковую хату ў Валожынскім раёне, нарадзілі сына і далі яму рэдкае імя Настась.



**Галіна і Сяргей збудавалі сабе ў вёсцы дом з усімі выгодамі.**

«Мы хочам, каб нашы дзеці былі беларусамі. А гэта значыць, яны павінны пражыць сваё дзяцінства тут. Кропка!» — кажа Галіна.

**Аксана Рудовіч**

**Глядзіце відэа на nn.by.**




# Дзяўчат занесла

Актывісткі руху Femen зрэзалі бензапілой і павалілі Паклонны крыж ля Майдана Незалежнасці ў цэнтры Кіева. «У дзень вынясення прысуду жаночы рух Femen выказвае падтрымку і павагу сваім расійскім калегам з гурта Pussy Riot.

Свой акт вандалізму феміністкі здымалі на фота і відэа. Той паклонны крыж паставілі закарпатцы ў часе Аранжавай рэвалюцыі.

Па факце хуліганства распачатая крымінальная справа. Тым часам спілаваны крыж аднавілі разам прадстаўнікі розных палітычных сілаў і грамадскіх арганізацый Украіны.

**Чаму пасадзілі Pussy Riot — старонка 4.**

## Рэакцыі на nn.by

Я ведаў людзей, якія зразалі крыжы яшчэ ў савецкія часы. Усе яны кепска скончылі.
**Іван**

Вар'яткі.
**Ігар з Менска**

Барані мяне Бог і надалей

ад таго, каб я стаў гэта ўсё «разумець» і прымаць як належнае.
**Алесь Юркавец**

## «НН» сто гадоў з вамі

У Трэцяй Думе паміж усімі 422 дэпутатамі можа 80 чалавек было такіх, каторыя маглі працаваць над законамі, а рэшта толькі так сабе сядзелі, бо не мелі на такую работу ні адукацыі, ні розуму, і праца заканадацельная бала ім не па сілах. І гэта невясёла...
**«Наша Ніва». №33. 1912**

Прыклад краінаў-суседзяў паказвае зусім адназначна і без выключэнняў — найперш незалежнасць, пасля дэмакратыя. Найперш краіна, пасля — рэжым. Бо тое, што мусіць адбывацца, дзе, а не наадварот. І ў Беларусі — таксама. Хіба што гадоў на дзесяць мы адсталі ў нашым палітычным і нацыянальным сталенні. Якраз беларусізацыя будзе першай умовай ператварэння «хамскае ўлады» ў нямхамскую, як гэта і было паўсюдна. Гаварыць сёння пра першасную дэмакратыю ў нашых умовах — азначае гаварыць пра далейшую русіфікацыю і ўрэшце далучэнне да Расеі.
**Сяргей Дубавец, «Наша Ніва». №31. 2002**

## Анекдоты

— Ну як у вас там у вёсцы жыццё?
— Як на Марсе.
— Так доўга да вас дабірацца?
— Не, проста ў нас жыцця няма.

* * *

Абітурыенты Саша і Сярожа паступалі ў розныя ўніверсітэты, а ў выніку служылі ў адной роце.


**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8030. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 21.08.2012.
Замова № 3220.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12